ББК 84Бел7
Г 16

«Исповедь бессонной души» —новая книга поэзии Леонида Голубовича, чей первый сборник стал явлением в белорусской поэзии и быстро разошелся.

В новой книге Леонид Голубович верен своей основпой теме — проникновению в человеческую душу, вмещающую в себя всю вселенную. Знание жизни деревни, человека в сочетании с высоким мастерством приносят хорошие плоды. Самобытный талант Леонида Голубовича развивается, набирает силу.

ISBN 5-340-00190-3

**Да чытача**

*Шэсць будзённых маіх гадоў,*
*З трыццаці шасці мной пражытых,*
*Гэта шэсць надзей...*
*Шэсць патоў*
*Над айчынным словам пралітых.*

*Гэта скруха мая і боль,*
*Гэта радасць і спадзяванне*
*На сустрэчу, чытач, з табой,*
*На — душы з душою — спатканне.*

* * *

Трава вось-вось пажоўкне.
Пасыплецца сняжок.
І той, хто быў у шоўку,
Залезе ў кажушок.

Такі мароз прыцісне,
Што выявіць якраз
На белым фоне ісцін
Пражыты намі час.

* * *

Ты — памаўчы.
                    Хачу я зразумець
Тваёй душы жыццёвую паклажу
Без слоў тваіх, як разумеюць смерць,
Хоць нам і слова мёртвыя не скажуць.

Ты — памаўчы,
                    як лес пасля дажджоў.
Як сам у ім пад мокраю лясінай...
Ты — памаўчы,
                    каб выказаць душой,
Чаго ты словам выказаць не ў сілах.

Пра значнасць слоў задумайся спярша,
Як смагу іх спатоліць грамавую...
Ты — памаўчы.
                    Няхай вядзе душа
Сваю гаворку з вечнасцю нямую...

* * *

Каго святлом я азарыў?
Каго сагрэў на белым свеце?
Гары, душа мая, гары,
Твары высокае бяссмерце!

Тут — на мяжы зялёных ніў
І векавечнага блакіту —
Сусвет мяне запаланіў,
Як плынь прырэчная — ракіту.

Тут эпахальныя вятры
Свой след пакінулі злачынны,
Вясной адтайвае ў двары
Крыві і поту пах айчынны...

І неспатольны мой пагляд —
На звечарэлым гарызонце,
Дзе пацямнелая зямля
Ледзь-ледзь трымаецца за сонца.

* * *
Прыходзіць дзень на змену цёмнай ночы.
Гісторыі касцёр гарыць, гарыць...
І век мой калясніцаю з гары
Грукоча...

Не праглядзець бы, не звярнуць ляйчынай,
Каб не застацца вечна ў забыцці...
Свядомасць розуму, узбагаці
Айчынай.

* * *

Мне часта сумна ад таго,
Што свет вясёлы безнадзейна,
Што абмінае шмат чаго
Яго святочная нядзеля.

Яго надрыўны вечны шум,
Прылівы страсці і адлівы,
Мне навяваюць горкі сум:
Шчаслівы смех і плач жахлівы...

А мне, адрокшыся майго,
Шапне каханая ў абдымках:
«Ах, свет твой сумны ад таго,
Што з сумам думаеш аб ім ты.

Ты весялосці волю дай —
Прычын для гэтага даволі —
Пакуль шуміць зялёны гай,
А не стаіць крыжамі ў полі...»

Ды толькі з раніцы я зноў
Тварца сустрэну — чалавека,
І зноў бунтуюць чуйна кроў,
І боль, і сум, і роздум века.

* * *

Мне гарадская спешка не з рукі.
Ўсяму — свой час. Стыхійнасць —
ад прыроды.
Вунь зноўку аздабляюць землякі
Свае вясной сядзібы-агароды.

Пластамі тлуста хіліцца зямля.
Занудны конь нацягвае пастронкі.
І дзеці — ад вяліка да мала —
Гайсаюць па загону наўздагонкі.

Залее дзень. І цень яго даўжэй.
І стынуць ногі босыя ў разоры.
І не адвесці ад зямлі вачэй,
Дзе бульбіны прасвечваюць, як зоры...

* * *

Нам цяпер, на самым зрэзе веку,
У яго зацішках і грамах,
Дагукацца як да чалавека?
Дух крычыць, а голасу — няма.

Голас ёсць, то духу не хапае.
Блізка мы. І бездань тут, і страх...
І душа над безданню — сляпая —
І яе не стрымаеш ніяк...

* * *

Вось-вось жывая ўзнімецца трава...
Ды зноў яе каса стальная скосіць.
І ўсё ж расце яна — ні год, ні два —
Вякі расце і літасці не просіць.

Вось так і мы ва ўсе свае часы
Змяняемся ад міру да разбою...
Прыдуманая намі сталь касы
Занесена над нашай галавою.

* * *

Начное свяціла.
Дрымота. Спакой.
І храмам настылым
Здаецца пакой.

Не пішуцца вершы.
Гібее душа.
І сэрцу не верыш,
Як верыў спярша.

У памяці говар
Вясковых людзей,
А вечнае слова
Не вырваць з грудзей.

Душы не кранае
Ні боль, ні бяда.
І час працякае,
Я к з крана — вада.

Патрэбна работа,
Каб гнула, гуло,
Каб выгнала потам
Задумы крыло.

І прыйдзе збавенне,
І з'явіцца час
Душы узрушэння,
І — слова, і сказ.

* * *

Меней думаю пра зоры.
Больш здзіўляюся Зямлі,
Дзе ў прыродзе — мухаморы,
Дзе ў народзе — каралі,

Дзе яшчэ даволі суму,
І аковаў, і свінца...
Мне зямную думаць думу,
У якой няма канца.

## Кавалям шчасця

Не папера — белы стос —
Прыкавала.
Стаў даўно пісьмовы стол
Мне кавадлам.

Перш, чым шчасця адкую
Вам падкову,—
Ў горне-горле накалю
Слоў аснoў.

Хай звініць штодня званчэй
Працы радасць!
Пот цячэ і жар пячэ —
Гарт і вартасць.

І не трэба мне пасля
Славы Феба.
Не пазбавіла б зямля
Солі з хлебам.

Каб ад мары не аслеп,
Каб адолеў...
Каб даліся СОЛЬ і ХЛЕБ
Роўнай доляй.

**Песнярам Айчыны**

Па дарогах бядовых —
Ад ярма да ярма —
Вашы лепшыя словы
Не прапалі дарма.

На жалейкі жалобу,
Гусляў гібельны звон
Адгукаліся злобай
Двор высокі і трон.

Вашы гучныя песні
Пазбаўляліся пут.
Хто ў душы іх не песціў,
Той не ведаў пакут.

Калі ж роўна ўсім сонца
Засвяціла з вышынь,
Аддалі вы да донца
Людзям шчодрасць душы.

Адстаялі ў нягодах.
Перасіляць вякі
Вашы песні з народам,
Песняры-мужыкі!

Вашы СЛАВА і СЛОВЫ
Тым, хто выйшаў з двара
Ад парога любові
На дарогу дабра.

**Восеньскае бяссонне**

Якія бясконцыя ночы!
Якія кароткія дні!
Бяссонныя цёмныя вочы
Застылі ў сваёй глыбіні.

Няшчадная цяжкая дума
Трывожыць азмрочаны час.
Галіны адвечнага дуба
Аголеным нервам крычаць.

То з'явіцца месяц, то згіне...
Як хваляй, нахлыне імжой...
Пачуцці і думы благія
Навекі заснуць над душой.

І блізкае стане далёкім,
І далеч надступіць на міг...
І вечнасці чуйныя крокі
Заціхнуць ля вокан маіх...

А голле адвечнага дуба
Вятры растрывожана гнуць...
Няшчадная цяжкая дума —
Памерці лягчэй, чым заснуць.

* * *

Памерці?
                    Ўсе памром.
Памерці вельмі лёгка.
Жыцця майго паром
Ад берага далёка.

Цягнуць усё цяжэй
Канат рукой карыснай.
І з кожным днём бліжэй
Майго бяссілля прыстань.

І нельга адпачыць
Насуперак цячэння,
І, значыць, трэба плыць
Да месца прызначэння.

І за кароткі час
Паспець сабе прысніцца
На месцы тым якраз
Вясёлага адплыцця.

І розум наталіць
Бяссмерця грэшнай верай...
Цягнуць канат, і — плыць,
І — набліжаць свой бераг.

* * *

Сонца ўсходзіць і заходзіць...
Але — як, мне адкажы,
Жыць з людзьмі і не знаходзіць
Блізкай розуму душы?

Жыць з людзьмі і не валодаць
Тайнай звадай пачуцця,
Жыць — не ведаць асалоды
Чалавечага жыцця.

Жыць — загадкай таямніцы,
Чар пакінуўшы сляды:
Ад святла — да навальніцы,
Ад грымот — да няматы?!

Дай з душой адзінаверцы
Прычасціцца хоць на міг,
Каб пасля ужо да смерці
Жыць трывогай за другіх,

Каб навек закрыўшы векі,
Ведаў я, што адышла —
Не, не богу — ЧАЛАВЕКУ
Ўся як ёсць мая душа.

* * *

Дзяцінства пачынаецца з пытання,
Ад сузірання першага світання.
Юнацтва пачынаецца з кахання,
Ад пачуцця і светапазнавання.
А сталасць — з разумення існавання.
І ў старасці чакаем мы адказу
На ўсе пытанні аб жыцці адразу.
Ды паміраем — закрываем вочы,
Не разгадаўшы вечнасці і ночы.
Мы паміраем самі — ад жыцця,
Не зразумеўшы ўласнага быцця.

**Апраўдальны верш**

Ну, моладзь?! Ты хоць трыной!
Адвольныя поп-паводзіны.
Учора — шлюбная ноч,
А сёння, глядзіш,— разводзіны.

І ты клялася: «Павер...
Адданай буду, пакорнаю...»
Прызнанні шаптала, як верш.
...Зманілі трыма пакоямі...

Не веру я ўсім, апроч
Як Музе — сваей палюбоўніцы,
З якою кожная ноч
Бясконцая ад бяссонніцы.

Бывае, што абміне —
На дзень ці на два адвернецца.
Ды вера ёсць у мяне,
Што — як ні было б, а вернецца.

Плачу за яе любоў.
(Не дзеўка — не йдзе задарам.)
Павыцягне з жылаў кроў —
На хлеб сыпне ганарарам.

Другі б не пражыў і дня.
Мне ж дзень без яе — знямога.
І ў тым не яе віна,
Што я паэт не ад бога.

* * *

Смуткую. А па чым?
...І ў снах, нібы наяве,
Бязвінны зноў крычыць
На пакаральнай лаве...

І свечка ўсё трымціць,
Як зорка ў каламуці...
І мне штоноч баліць,
Балеўшае камусьці.

А ў вокнах — дзень.
Не сон.
Памылак не даруюць.
За ўсе — вякоў спакон —
Нашчадкі адгаруюць.

* * *

Дзе рамантыкі ездзілі —
Там жыццёвая проза.
Не чытаюць паэзіі —
Бачаць далі цвяроза.

З камарамі балоціну
Думай высушыць хочаш?
Ад душэўнага поцягу
На сушэйшае збочыш.

Свет для мары шырокі.
А спазнаны так вузка.
Забываем вытокі.
Памыкаем да вусця.

Ды аб тым, што наперадзе,
Разважаем крытычна.
Не чытаем паэзіі,
А жывём паэтычна.

* * *

Зіму яшчэ адзімую.
Асілю з народам стынь.
Вясной яшчэ ўзніму я
Адталай зямлі пласты.

Ачышчу душы засекі.
Пасею не на вякі —
Да восені, бо навекі
Пасеюць з другой рукі.

Каб люд пра мяне вясковы
Не кпіў, паглядзеўшы ўслед:
«Пасеяў на вецер словы,
А мог бы пасеяць хлеб...»

* * *
За трыццаць мне.
Жыццё мае ўставала
Насуперак цячэнням да вясла.
Душа мая прасветлага шукала,
Як вочы невідушчага — святла.

Над бытам усміхаўся.
Разбіваўся...
Хвала шчыту!
Ды тройчы гімн мячу!!!
Не думаў я аб смерці.
Не баяўся

Пераступіць апошнюю мяжу.
І што там за мяжою — невядома.
(Ты ведаеш — нікому не кажы.)
Я — чалавек. Я не ў гасцях.
Я — дома.
Пакуль жыву — не ведаю мяжы.

**Гімн стыхіі**

Мяняюць сіноптыкі ветру напрамак.
Слухаю ўночы флюгера скрып...
Раніцай выйду на вымыты ганак:
Куды гэта дзьмуць безупынна вятры?

Адзіны маршрут набліжае да мэты.
На гэтым маршруце не мала ахвяр.
Штодзённа іду я насуперак ветру.
Вятры языкам і вылізваюць твар.

Адных да Алімпа загнала па ветру,
Ды новым парывам скаціла з гары...
А мне ты скарышся, стыхія,— я веру!
Я крочу туды, адкуль дзьмулі вятры.

* * *

Адтаяла душа.
Жыву ў будзённай гушчы,
Без лішняга граша,
Не нагуляўшы тлушчу.
І дума, як усіх,
Трывожыць безгалоса:
Ці ўсё я адкусіў
Ад караваю лёсу?
Ці ўсё, што мог нясці,
Нясу як вернасць праўдзе?
Ці многаму ў жыцці,
Як многія, я здрадзіў?

Ці ёсць мне што сказаць
Жывому чалавеку,
Чаго не можа знаць
Ён сам, равеснік веку?

Ці мне сушыць пяро —
Душа адсвяткавала?
Яшчэ тварыць дабро
Ёсць спосабаў нямала.

* * *

Не схавацца ад жыцця
Ні за якай шырмай.
Кожны дзень свайго быцця
Адкрываю шырай.

Не прадаўся за грашы.
Не растраціў розум.
Ліру звонкую душы
Не змяняў на прозу.

Хоць і прозаю жыву,
Хоць і пахну потам,
А паэзію заву
Чорнаю работай.

Не таму, што сам я свой
У яе заступнік,
Што не потам, а крывёй
На душы праступіць,

А таму, што — без канца! —
Працы той штодзённай
Не паставіш ты вянца
Да магілы цёмнай.

* * *

Зязюлі мне гадоў не шкадавалі.
Яны заўжды, не чуючы бяды,
Як кавалі на сонечным кавадле,
Кувалі незлічоныя гады...

Я пераджыў тых птушак, што ад веку
Жыццёвы мне прарочылі працяг...
А сам — ці абяссмерціў чалавека,
Ці абнадзеіў вечнасцю хаця б?..

* * *

Маё сумленне — сонца,
Ты зноў над галавой.
Гары!
            Свяці бясконца
На шлях жыццёвы мой.

А ноч — счарнелай плахай
Спытаецца ў душы:
«Людскою праўдай плакаў.
А ў чым — твая, скажы?»

І я скажу праўдзіва,
Што думаю заўжды
Пра сонца над радзімай
У цемрадзь і дажджы.

Што прагну вечнай волі,
Свядомай і святой,
У гэтым хлебным полі
Айчыны маладой.

* * *

Ніколі на Поўдні не быў.
Не бачыў ні пальмаў, ні мора.
Збіраю па лесе грыбы
Праўдзівыя між мухамораў.

Бывала — касою касі!
Старый лясы выразаюць.
Так мала навокал красы,
І тую няшчадна крамсаюць.

Залезу ў балотную глуш.
Дам волю сваім спачуванням.
Майго вальнадумства не руш,
Пакуль не пачуеш прызнанняў...

На Поўдні не быў. Ну, дык што ж?
Не бачыў ні пальмаў, ні мора...
Мой поўны праўдзівымі кош.
Пакінуў каму мухаморы?

Як доўга цягнуўся наш век!
І як ён мінаецца хутка.
Задумна сядзіць чалавек
На новага веку прыступках.

Ты — знаўца прыроды і цар.
Я чуў твае гімны і песні.
Ты рай на Зямлі абяцаў...
Надзею пакінь — на нябесны.

**Пытанні**

Свет амяняецца ад таго,
Якія мы ставім пытанні...
І гэта — нічога, што адказаць
На ўсе не заўжды паспяваем.

Свет змяняецца,
                                        бо на іх
Даводзіцца ўсё ж адказваць:
На продкаў пытанні — нам,
Нашчадкам — на нашы пытанні.

Свет змяняецца ад таго,
Якія мы ставім пытанні
Перад будучыняй сваёй...

Ці будзе шчаслівым усё чалавецтва?

Даўно не мае адказу
Вось гэтае толькі пытанне.
І ўсё ж на яго адкажуць.
З вуснаў бы не сышло.

* * *

Я здаравею розумам.
Я забываю догмы.
Не выбіраю позу я,
Каб паказацца добрым.

Не выбіраю сытасці,
А выбіраю волю.
Не папрашу я літасці,
Каб перайначыць долю.

А для душы — прачуласці.
Паменш бы ёй спачыну,
Каб блыш свядома чулася
Гаворка пра Айчыну.

* * *

Начная цёмная сцяна.
І вецер вые за сцяною.
І дума даўняя адна
Мне не дае ўсю ноч спакою.

— У чым жа ты, мой вечны боль?
У чым жа ты, мае жаданне?
— Ў самаахвярнасці сабой.
— Дзеля чаго?
— Дзеля пазнання.

— А што хацелася б табе
Найперш пазнаць на белым свеце?
— Спярша хацелася б — сябе.
Пасля — стыхію, волю, вецер...

— Чаго ж хацелася б, скажы,
Табе не ведаць пажыццёва?
— Асірацеласці душы.
Зняменне слова...

* * *

Я дзіўны чалавек
Свайго зямнога веку,
Ды здоўжыўся мне век,
Як старасць чалавеку.

Насіла па зямлі,
Як ліст асірацелы.
Тады, як пры камлі
Другія шапацелі.

Пабегаў па зямлі.
Палётаў над зямлёю.
Ніхто не прытуліў
Спагаднай даланёю.

І цягне да камля,
Да глебы, што радзіла.
...І родная зямля
Мяне не асудзіла.

## Паштар і сумка

*П. І. Мацейку*

Вясёлы жыве чалавек.
Настрою свайго не губляе.
І ў светлай яго галаве
Дарожная думка гуляе...

А ровар скрыпіць і скрыпіць,
І сумка ацягвае плечы,
А ў сумцы паўсвету кіпіць —
Хвалюецца, цешыцца, енчыць...

І шчасцем зямным і бядой
Надзеліць ён шчодра ўсю вёску.
І пісьмы ляцяць чарадой —
Любімых людзей адгалоскі.

Калі абышоў і каго?
Чыя не прачынена хата?
І ўдовы яшчэ на яго
З надзеяй глядзяць вінаватай.

...Пад вечар пусцее яна,
Паштовая гэтая сумка.
І ў ёй застаецца адна
Зямная дарожная думка...

* * *

Разбагацець душой —
І выдыхнуцца ў працы.
Для гэтага й прыйшоў,
Каб і набыць і страціць.

Набытак не малы...
А што датычыць страты —
То ўсе мы на зямлі
Адданасцю багаты.

* * *

*Міколу Мятліцкаму*

І я і ты ў адзіны час зліёмся.
Адрынем цела ад сваёй душы.
Таму сягоння плачам і смяёмся
Ў сталічным шуме і ў лясной глушы.

Святочнае заслоніць ад турботы.
Надзённае адпрэчыць ад нуды.
І я не запытаю ў цябе: хто ты?
Хто я? — не запытаешся і ты.

Знаёмыя: у нас адна Айчына.
Шчаслівыя: і мова ў нас адна.
Адна для слёз і радасцей прычына.
Адна перад няспраўджаным віна.

* * *

Здаваўся боль бясконцым.
Каршун тугі кружыў.
Бывала, і пад сонцам
Цямнела на душы.

А радасці хвіліны
І шчасця дзіўны сон
Не склалі і гадзіны
З усіх пражытых дзён.

Ды памяць, як збавенне,
Вяртае мне наноў
Шчаслівыя імгненні
На зболенасць гадоў.

* * *

Ах, якая была гара
За сялом!
Я — дзіцём,— бывала,
Апаўдня выбягаў з двара,
І — да неба яна ўздымала...

Адыходзіў далей з двара.
І Урал пабачыў, і сопкі...
Мне пагоркам мая гара
Падалася між гор высокіх.

...Развітальна ўзыдзе зара...
Узнясецца сваёй вяршыняй
Нада мной зямля, як гара,
Павышэўшы на паўаршына.

Недзе ў нейкім веку дзіцё
Узбярэцца на той пагорак...
На жыццё мудрэе жыццё
І зямля вышэе да зорак.

**Памяці сталяра А. Мікірэя**

Ціха, мірна цябе пахавалі.
І не плакалі.
                    Што ўжо той плач?
Што павінен ты быў — даравалі.
Што павінны былі — ты прабач.

Тройчы выпілі ў смурнай хаціне.
Поп з мястэчка псалмы адгудзеў.
Хай цябе пад зямлёй не пакіне
Ўсё, чаго на зямлі ты хацеў.

Ну, а нас хай пакінуць нарэшце
Зло, нянавісць і хцівасці чад...
Дзе ж любові на ўсіх набярэшся,
Раз яе не вяртаюць назад?!

Міг і вечнасць спачылі ў хаціне.
Б'юцца ў шыбы спантанна чмялі.
Хай і нас на зямлі не пакіне
Ўсё, чаго ты жадаў на зямлі.

* * *

Крамянай восеньскай парою
Ляжу, як віцязь малады,
Пад буйнай яблыняй старою
Грызу саспелыя плады.

Яшчэ не раз парой такою,
Магчыма, тут сарву ранет,
Пад гэтай яблыняй старою,
Што пасадзіў калісьці дзед.

...Грызу плады яго. Ляжу.
А сам,
а сам што пасаджу?

* * *

О, век дакладнай лічбы,
Пярун — твайму пяру!
Ды я ў цябе не лішні
І лішнім не памру.

Ну што ж, сядзі, падлічвай
Рублі і драбязу.
Раскладвай па палічках
І радасць, і слязу...

Нявызнаны астатак
З вядомым падсумуй...
Каб светла жыў нашчадак
Любі, твары, працуй!

**Душа**

У ружовай квецені аблокаў,
Сонечнай акрэслена мяжой,
Праплыла жадана і высока
І маёй назвалася душой.

За гадоў паспешнаю хадою,
Дзе здаваў заўчасна рубяжы,
Раптам знікла светлае, святое —
Не дазвацца розумам душы.

Ні ў былых кампаніях вясёлых,
Ні ў вясковым гурце, дзе бываў,
Аніхто ні поглядам, ні словам,
Дзе шукаць яе, не падказаў.

...У начной трывожнай паняверцы
Круціць вецер, сноўдае імжа...
Стукнула па шыбе, як па сэрцы...
Хто там? — прачынаюся.
Душа.

**Дарога дадому**

Абмытая дажджамі Беларусь,
Як сена воз гайдаецца за вокнамі.
У зрэнках заклапочаных збяру
Яе пейзаж і выгляд яе вонкавы.

Якая даль! Якое хараство!
Пыляць якія краскі лугавінаю!
Як выгнута высокае брыво
Дняпроўскіх стром пад воднаю лавінаю!

Паглядзіш вокам — цешыцца душа.
Душою прымеш — і яснееш розумам.
Не верыцца, што існуе мяжа
Паміж самой паэзіяй і прозаю.

Што недзе там, за светлай плёнкай дня,
За сотню вёрст з кароткімі прыпынкамі,
Жыве твая вясковая радня
Са святамі сваімі і памінкамі...

Што недзе там твой самы светлы дом.
А сум апошні часу недалёкага
На самым дне — што не дастаць вядром
Бацькоўскага калодзежа глыбокага.

**Падпасак**

Я быў падпаскам. Ганарова
На золку вёску разбудзіць.
Як першым промнем —
першым словам
Пачатак дня апавясціць.

Ды ўсе ідыліі, як богі,
Знікалі прывідамі дрэў,
Калі падкошваліся ногі,
А лес наўкол усё гусцеў...

На лёжцы статак, як на ўлонні,
Ляжыць, злізаўшы з траў расу.
А я, шчаслівы, на далоні
Кароўку божую пасу.

І сон-трава мяне зняможа
І крылы дасць маёй душы,
І я над стоеным мурожжам
Лятаю ў ліпеньскай цішы...

І нешта шэпча, мне здаецца,
Анёл, што сон мой старажыць:
«Ды дзе каровам гэтым дзецца...
Падпаска б толькі не згубіць...»

І я па сёння не згубіўся
У айчынным гурце векавым.
Анёлам тым, якім маліўся,
Малюся — мёртвым — як жывым.

* * *

Першы дождж маладой вясны.
Ціхі-ціхі, як шэпт прызнання,—
На расхлістанасць баразны,
На зялёнае прадчуванне!

Не заўважыш яго канца...
Пад празрыстым яго зіхценнем
На ўвесь дарожны прасцяг
Накрыжованы светлацені...

І дзяўчына — дзіцём-дзіця —
Нібы кропля ўся дажджавая,
Адлюстроўвае свет жыцця,
Што наўкол яе акружае.

Можа, самы шчаслівы дзень
Лье святло на яе бясконца...
Адыду хваравіта ў цень.
Як сляпы — пагляджу на сонца...

* * *

Не так далека да вясны.
Ужо чутна яе гаворка.
Штоноч яснеюць нашы сны,
Як шыбы хатнія з надворку.

Рыпіць трывожна цяжкі снег.
І перад светам — паглядзіце! —
Як грэшнік, чорны на сасне
Крумкач купаецца ў блакіце.

А на расталінах зямлі
Паэтаў хор вясну вяшчуе.
(Не ўчуеш іх сярод зімы
І позняй восенню не ўчуеш.)

Ды прыслухоўваюся я
Да іх рулад, крыху паспешных,
Бо, пэўна ж,ёсць і ў салаўя
Яшчэ не чутая мной песня.

## Цётка Маня

Цётка Маня, цётка Маня
Адзінокаю жыве,
Каб фарсілі ў дзіва-ўбраннях
Дзве пляменніцы ў Маскве.

Цётка Маня засынае.
Сняцца дочкі і сыны.
І ў сталіцу адсылае
Пісьмы, грошы, слёзы, сны..

Са сталіцы цётцы Мані
Зрэдку носіць паштальён
Спачуванні, абяцанні
Столькі год і столькі дзён.

Цётка Маня маладзіцца.
Рукі зболена нясе...
Каб жылі-былі ў сталіцы
Дзве пляменніцы.
І — ўсе.

* * *

Сарваўся з прывязі сабака.
Ён адзічэў на ланцугу.
Удосталь сам сваю аплакаў
Як ёсць сабачую тугу.

Начамі — сэрца аж заные,
Калі жальбой зальецца брэх —
І маці шэпча: «Плачма вые…
Не дай-то божа хто памрэ…»

І — паміралі. Так бывала
Па супадзенні ці чаму…
Тады заўжды перападала
Як вінаватаму яму.

…І вось сарваўся.
І па свеце
Яго, як ветрам, панясло…
Чыя чарга? Калі памерці?
Цяпер не ведае сяло.

Ці помніць двор свой, ці не помніць?
Ці збыўся жалю і тугі?
О, лёс жыцця, адчаю поўны!
І — рвуцца, рвуцца ланцугі!

* * *

Сяджу ў кватэры паэтэсы.
Баюся горычна ўздыхнуць.
І ўсё ж жыцця зямнога стрэсы
Ў гаворцы з ёй не абмінуць.

За кожным чуйным словам бачу
Усё, што ў яўнасці было...
Душа з душой суладна плачуць,
Крылом кранаючы крыло...

То з лёгкім сумам усміхнецца,
То, захмялеўшы ад віна,
Адкрые зболенае сэрца,
Дзе рана свежая відна.

І просты быт яе дамашні,
І ціш прытоеная кніг —
Ўсё адухоўлена ўчарашнім
Яе жыццём, дзе кожны міг

Да дзён сягонняшніх прычасцен,
Да спраў няспраўджаных зямных...
Яснее смутак. Толькі шчасце
Гарчыць калінаю зімы.

...Незамутнёна чаша славы,
Яшчэ не выпітая ёй...
І вершы шэпчуцца, як травы
Над ціхай Ясельдай-ракой...

**Дзед**

Мароз ці слота на двары —
Ён кій у рукі і да лесу...
Зусім здзяцінелы стары
Без дачынення да прагрэсу.

Пад вечар вернецца дамоў.
Таемнасць воч яго світае...
Здаецца, ён адтуль прыйшоў,
Дзе толькі дух святы лунае.

Без слоў разумна памаўчыць.
І тлуму нашага не знае.
І німбам свеціцца ўначы
Яго залысіна зямная.

* * *

Люблю старых людзей
І шчыра паважаю.
Равеснікаў падзей
Любові і адчаю.

Равеснікаў віхур
І вогненнага жаху,
З зарубінамі куль,
З залысінамі страху...

Даўно блакіт вачэй
Ад іх забрала неба...
Жыцця рака цячэ
Сярод лясоў і хлеба.

Адкрытасць шчодрых дуга,
Іх свет дабра высокі
Не руга, мой век, не руга!
Не руга свае вытокі!

А глыбей зазірні,
Запомні іх да скону,
Як помняць карані
Сваю над небам крону.

* * *

Стынь такая стаіць з паўдня.
Бы падушкі хто выбівае —
З белых воблакаў цішыня
Снегам мройнасці ападае.

Адысціся б, ну, хоць на крок,
З першаснегу над елак вэлюм,
Ды стаю, нібы даў зарок
Чыстым быць нерад светам белым.

На зямлю маю, на мяне,
Абуджаючы ў сэрцы вершы,—
Не завеі снежныя — снег,
Толькі снег яшчэ першы...

* * *

Сыдуць блізкія людзі навечна.
Нехта — ў памяць,
                                а нехта — ў нябыт...
Чалавекам жыву. Чалавечна.
Чалавека не ў сілах забыць.

Ні вайны на зямлі, ні віхуры.
Што ж прарочаць-крычаць журавы?
Адзінока жанчына вякуе:
Дзве рукі да адной галавы.

Ноч абложыць, як цёмныя хмары.
Ледзь на прыпеку тлеюць вуглі.
Бацька, маці, сяброўка, таварыш —
Падпіраюць чатыры вуглы...

* * *

Гарачы мой, віхурны, шумны век!
Я перажыў усе твае хваробы,
Ды не схіліў сцягоў сваёй жалобы,
Не выцісну́ў слязіны з-пад навек.

Збавенне для душы, як і заўжды,—
Нязгасная пяўрымслівасць работы.
Пытанне аднадае: хто і што ты?
На доўгія, як пропаведзь, гады.

Вядома ўсім, што толькі ў барацьбе
Нам дастае і сілы і падзеі —
Не з будняў дацягнуцца да нядзелі,
А перажыць будзённага сябе.

## Яшчэ раз пра коней

Пра коней столькі напісалі,
Як коням вывезці самім.
Якія пугі прасвісталі
Са словам зычным і благім

Над іх сінною разагнутай?!
І ці каню таго не знаць:
Калі з яго здымаюць путы,
То, пэўна, будуць запрагаць...

Лес запражэ ў свае аглоблі.
Ці кожны цягне за сябе?
Не абмінаючы калдобін,
Мой конь натруджаны сапе...

А як яго пасілі ногі
Па белым свеце напрасты,
Пакуль аб цвёрды край дарогі
Не абламаў ён капыты!

Табун папасам прагрукоча —
І лейцы рвуцца на шматы...
І гнеў і боль палоняць вочы...
Свабода, дзе твае сляды?

* * *

Жыве Алімпа адзінока.
Вайна прыбрала мужыка.
І хоць жывецца ёй не лёгка,
А не прыгрэла прымака.

Любові выпала не многа,
Хоць абяцалася спярша.
«Адзінай вераю у бога
Яе красуецца душа»,—
Гавораць так.
                        І, можа, праўда,
Што ёсць у кожнага свой бог.
Была рака адна Няпраўда
І тая выцякла ў пясок.

І як не верыць ім, скажы ты? —
Там, за іконамі святых
Ляжаць усе, як ёсць, малітвы
Ягоных пісьмаў франтавых.

* * *

Пусцее дом. Выносяцца на злом
Святыя рэчы, зробленыя бацькам.
Заззяла паліроўкаю і шклом
Вясковая даміна, нібы цацка.

Бажніцы дзве, схаваныя ў кутах...
Малюся ім, забыўшыся на бога...
Мая надзея і мая бяда —
Мой першы крок ад роднага парога.

Не знімеш боль, як не адкруціш час.
Багаты дом, ды што з таго багацця,
Калі яно не адкрывае нас,
А прыкрывае, як дзяўчыну плацце.

Я ўспамінаю цудадзейны храм
І даўнюю зацёртую ікону...
А сам хаджу на дзедавых дварах
І ні таго, ні гэтага не помню.

Нішто мне не расказвае ў цішы
Пра іх, памёршых на пачатку веку...
Мне памяць рук за памяццю душы
Хацелася б пакінуць чалавеку.

* * *

Адходзяць старажылы —
Прыгонныя зямлі.
Іх свежыя магілы
Быллём не параслі.

Вам гімнаў не спяваю.
(Калі вам гімны пець?)
Я ледзьве паспяваю
Аплакаць вашу смерць.

І быццам век не слёзны.
Тым слёзы даражэй.
Маршчыны, як барозны,
Пралеглі да вачэй...

І што пам тыя гімны?!
Нам дадзен мудры час —
Задоўга да магілы
Жывых запомніць вас,

Якіх не прыгалубіў
Ні цар, ні бог, ні лёс...
Праўдзівых адналюбаў,
Саромеўшыхся слёз.

Служыўшых век нязменна
Айчыне і сям'і,
Назваўшых нам пайменна
Жывое на зямлі.

* * *

*Міхалку*

Дзеду чысцім калодзеж...
Да вады той, нарэшце,
Да крынічнай як дойдзеш —
Потам тройчы ўцярэшся.

І павошта б старому
Перад смерцю вадзіца?
— Гаспадар — як без дому,
Дзе вады не напіцца.

Сам сваёй не памыўся —
І чужой не памыюць...
Малады, а стаміўся...
Дай хоць шыю намылю...

Да ўсяго яшчэ дойдзеш,
Век пражыўшы, хлапчына.
Дому — чысты калодзеж,
Нібы сэрцу — Айчына.

...І глядзіцца ён зверху,
Гэты праведнік грэшны,
У ваду, бы ў люстэрка —
На адбітак свой вечны.

* * *

*Аляксандру Прышчэпу*

Прыходзіць дзед-сусед і мне
Сваё расказвае былое...
— Ну, што твой джынс?
А вось раней
Быў матэр'ял мацнейшы ўтрое.

Парткі пашыеш — дзесяць год
Няма ім зносу да цвілога...
Ці хоць вазьмі той самы бот.
Гапак дасі — трашчыць падлога.

(А колькі раз іх надзяваў,
І той касцюм, і тыя боты,
Пра тое дзед не ўспамінаў,
Паколькі ў тым не меў ахвоты.)

Цяплей было. І то сказаць.
З рання да вечара паліла.
Ды так, што ў пол і не стрываць.
З духоты падала кабыла.

А весялосць? А гамана?!
Музыкі прыйдуць на Міколу...
А што цяпер?
Адна струна —
І ўся пацеха камсамолу...

Жыць, не скажу,— лацвей і лепш.
Ды што раўняць?!
Я — не пра тое.
Я — не пра грошы, не пра хлеб.
Я — пра сваё, пра маладое...

Я веру, мілы, слаўны дзед,
Твайму старэчаму адчаю.
Усе мы славім гэты свет
Сваімі помнымі вачамі.

**Дзіцячы ўспамін**

Жывём — не горш, каб лепш...
Яшчэ ўсяго патрошкі.
Не раскідаем хлеб,
А ў рот збіраем крошкі.

У кортавых партках
Не дакрануцца лаўкі —
Футбольны рэпартаж
Вядзе Вадзім Сіняўскі.

Адрокшыся ўсяго,
Без вытрымкі спартанскай
Аплачам першы гол
На востраве брытанскім...

Вайны былой пажар
Не стане забывацца,
Ды твары ўсіх ахвяр
У твар адзін зліваецца
Пачнуць...

* * *

*Светлай памяці цёткі Волі*

Рукі спачыну не ведалі ў цёткі.
Сноўдалі ў ночвах, як жвавыя плоткі.
Лёткія, быццам птушыныя крылы...
Пралі, палолі, калолі, варылі...

Клалася позна. Рана ўставала.
Богу — малілася,
дзецям — спявала.
...Бела да костачак рукі адмыты,
Ціха хусцінкай памытай акрыты...

**Начны матацыкліст**

*Светлай памяці сябра*
*Васіля Мацукевіча*

Начуе ў доме зноў
Душа матацыкліста.
Ён па абрыву сноў
Маіх адчайна мчыцца.
Я — вечны пасажыр
Яго зямнога часу.
Сцінае клінам шыр —
Ён не збаўляе газу.
Дастаць бы гарызонт,
Як фінішную мэту.
Там, за яго лязом —
Край ці пачатак свету?!
Ляціць яго душа.
Мая — дрыжыць ціхутка...
Не трэ перавышаць
Зададзеную хуткасць...

...Прабач мне боль бяды.
Няма мне суцяшэння,
Бо не адолеў ты
Зямное прыцягненне.

Мы — ў плоскасці травы —
Ляцім праз часу вёрсты...
Ты — за рулём — жывы...
Я — за спіною — мёртвы.

## Прысуд

Свой сум прынёс на суд лясны
Пад цёмны цень густой саспы.
І доўга слухаў я, маўклівы,
Прысуд птушыны гаманлівы:

«Паболей пець. Наменей піць.
Паменш марнець. Пабольш рабіць.
Любіць жанчыну, як свабоду,
Мацней і шчырай год ад году.
Забыць нуду, забыць гады
І быць шчаслівым назаўжды».

...Задумны я прыйшоў дахаты,
Крылатай мудрасцю багаты...
Ці так было — як я пішу —
Спытайце ўласную душу.

**Студзеньскі базар у Слуцку**

Прадае бабуля гарбузы.
Дзень стаіць марозны і калядны.
Не хрысціўся я на абразы,
Без таго да ўсіх ва ўсім спагадны.

Вось вышэў бы толькі ясны дзень!
Грэўся б сонцам выстылы прасценак!
Гарбузоў куплю, бо прападзе
На марозе бабка за бясцэнак.

Ну, а ты, цыганка, пагадай
Лёс шчаслівы, раз рубель сарвала.
...Дама пікі!
                    Гэта не бяда.
На яе ёсць Люба з-пад Урала!

Жар, базар!
                    Люблю дасціпны жарт.
Не палонь вачыма, маладзіца!
Твар — азарт!
                    Тавар таго не варт.
Ахнуць!
          Тры разы перахрысціцца...

* * *

З календара амаль усе
Лісты зляцелі сакавіцкія,
А на дварэ яшчэ мяце
І пад валёнкамі папісквае...

І хутка маюцца буслы
Ляцець па дзедавым рахунку.
Ужо чуваць іх галасы
Недзе на прыпяцкім кірунку.

Якая ж прага іх душы
Дала ім веру — шлях адзіны,
Каб нрыляцець — не саграшыць,
Як на пагібель, на Радзіму?!

Духоўны, вечны продкаў кліч,
Ты ўсё жывое прыручаеш!
На гэты кліч здалёк ляціш.
Няма яго — і крыл не маеш.

**Канец лютага**

Зіма. Цярусіць дождж.
Навокал ні сняжынкі.
Ды, пэўна, рана ўсё ж
Зімы спраўляць памінкі.

Знясіліцца імжа.
Прамерзне за сцяною.
Натоліцца душа
Святлом і чысцінёю.

І нас з глыбінь нябёс
Засынле снега срэбрам.
Не выцягнеш калёс,
Дзе ў санях ехаць трэба.

Прырода, быццам лёс.
Ды ёсць празорцы ў хаце.
Вунь — дзед.
Ён не аднёс
Валёнкі на палаці.

**Красавік**

Цень расколінкі — вухне!
Падабрэе мароз.
Грудзі сокам напухнуць
У цяжарных бяроз.

След глыбокі, трывожны
Прыпадзе да зямлі.
Пах адтае мурожны
Пры сасновым камлі.

Цёплым вокам шпакоўня
Чуйна Поўдзень пасе —
Там дадому, стамлёна,
Птушка песні нясе...

* * *

Якая восень залаціцца
І палымнее па лясах!
І павуцінай час свіціцца
У парадзелых валасах...

Знайду я з раніцы грыбніцу
Пахаладзелую ў бары,
Якую ліст, упаўшы піцма,
Прыкрыў ад вока да пары.

Не зачапіўшы за жывое,
Грыбніцу ціха абыду.
Хай узыходзіць маладое
З зямлі, ў якую сам сыду.

Прыйду з пустым кашом да хаты.
Жанчыны стануць папракаць,
Не знаючы, што я багаты
Усім, што вокам не відаць.

**Удовы**

Лісцё ў бары грабуць удовы.
Дубовы ліст,
руды грабовы...
І прыліпае да спадніц
Лісцё,
што ўжо адзелянела,
Адшапацела,
адшумела
І — пала ніц...

Сухі апалы жоўты ліст
Грабуць няўцешныя удовы,
Каб вугал хаты ацяпліць,
Як лёс бядовы.

Душы,
як памятныя позвы,
Зноў адгукаецца вясна...
Ах, як світае сёння позна.
І як шарэе апаўдня...

* * *
— Добры дзень на доўгі век!
— Добры вечар вам і вечнасць...
З чалавекам чалавек
Гаварыў пра чалавечнасць.

А цяпер.
— Прывет!
— Прывет!
— Справы як?
                    Ну, будзь!
                                        Гадуйся!
Стаў скупы душою век.
Так што, брат, жыві — не дуйся!

Сцісне горам ці бядой
І — звяртайся хоць да бога,
Во за спешнаю хадой
Не заўважыў анікога.

**Дыялог жыцця**

Я пражыў бы жыццё нанова.
Я адняў бы ў дуты спакой.
Больш чулліва б выслухаў слова.
Склаў бы песню праўды людской.

Стаў бліжзй бы я да парода
І да горна яго жыцця.
Мне адкрыла б наўсцяж прырода
Тайны вечнасці і быцця...

«Ах, сынок,— мне гаворыць мама,
Я панова б не пражыла.
Сіл маіх засталося мала —
Ўсё пражытаму аддала.

Ныюць косці мае старыя...
Я — пачатак,
а ты — працяг...
Непаўторнасць жыцця адкрыеш
Ты па схіле свайго жыцця».

**Аўтарам першых паэтычных кніг**

У кнігарню зайду —
Не забуду дарогу,
Тыя кніжкі знайду,
Што пыляцца падоўгу.

Пыл не тайны сатру,
А зямны і звычайны.
І прыліпне да рук
Нейчы зборнік адчайна.

Значыць, лёс. І з табой
Нам — далей бы ад тлуму.
Мо знайду сярод слоў
Запаветную думу.

А кал і не знайду,
Што ж — адчаю такога! —
Проста ў дом прывяду
Чалавека зямнога.

Свой пастаўлю акцэнт
Я на слове вясковым
І надам яму сэнс
Чалавечай высновы.

І засею наноў
Тое творчае поле...
Ах, і ў нас, чытачоў,
Незайздросная доля!

Адгарэць, як сваім,
Неразгаданым лёсам,
Каб не стаў ён чужым,
Як адразу здалося.

* * *

За буднямі свят не разгледзіш —
Гарачая ў вёсцы пара!
На тварах, як водсветы медзі,
Гуляе спакуса дабра.

І чуецца блізка, за лесам,
Сталёвая споведзь касы —
Суровая песня жалеза
Ў халодных накрапах расы.

І толькі па самым змярканні
Папросіць спачыну далонь.
І ўсё тады разам змаўкае,
І — гасне высокі агонь...

І тлее ружовай зарою,
Пакуль на пачлезе дзяды —
Дрымотнаю самай парою —
Не ўсчыняць агонь малады.

* * *

*Ірыне*

Тая ноч намі ўкрадзена ў вечнасці...
Чуйпа помню: ў высокі той час
Да спатольнай якой небяспечнасці
Нашы душы сышліся якраз...

Дрэвы неба над намі падвысілі...
Ад сябе адпусціла зямля...
У бяздоннай, азоранай высіні
Я адзінае помніў імя...

Сіла нас сцерагла найвышэйшая!
А калі адышла пеўпрыкмет —
Нашы душы вярнуліся — грэшныя —
Ў гэты белы і стомлены свет.

Развітальна дайшоўшы да вуліцы,
Дзе адзіны ліхтар зіхаціць,
Дзякуй богу, не будзем задумвацца:
Што нам помніць і што нам забыць.

**Юначае**

Я помню нашы юныя дзівацтвы:
Загадваеш, як зорка упадзе...
Высокім зоркам — міг адзін —
сарвацца,
І — падаць невядома яшчэ дзе.

Здзіўляючыя, гібельныя зоркі!
Спакусніцы любові і святла!
І я загадваў.
Падалі.
Ды толькі
Далоняў ні адна не апякла.

* * *

Каханая!
                    Аплакана душа.
Спасцігнута жалоба адзіноты.
Ўзараііа забаронная мяжа.
Акрэслены здзяіісненняў гарызонты.

Здымі з душы нясцерпны боль начэй
І памяць прадчуванняў ледзь забытых...
Каханая!
                    Сыдзі з начных вачэй,
Як з дзённых ты сышла вачэй адкрытых.

* * *

Яшчэ пра нас з табой паэты
Напішуць так, як і было.
Пажоўкнуць нашыя партрэты,
Згніе, разваліцца жытло...

А тыя тайныя сустрэчы,
І говар наш, і немасць дум
Яшчэ не раз увекавечыць
На гэтым свеце туга дум.

І хоць «Рамэо і Джульету»
Шэкспір вялікі напісаў,
У нас свой век, свае паэты
І на любоў не меней праў.

Не меней вернасці і здрады
Яшчэ спасцігне чалавек...
А ты ўсё просіш, як спагады:
«Нашто нам вечнасць?
Ноч — як век...»

* * *

*Алесю Жыгунову*

Паэт павінен быць зямным,
Хоць божы німб над ім, як ззянне…
Чым вышай спеюць перуны,
Тым да зямлі мацней іх цягне.

І сам я зорыў вышыню
І зорнаю трымцеў разгадкай.
Прад цемрай ночы — верыў дню,
Адчуўшы боль пад той лапаткай,

Дзе, пэўна, кожнаму баліць
Зямны наш час…
І ўсё ж — імкненне:
Сябе звысоку запаліць
Дзеля зямнога прыцягнення.

* * *

Святлей штодня вясновы свет.
Адсунуліся гарызонты
Ад цяжка ўзнятых мной навек
І адзіноты.

Душа святое пачуццё
Яднае з розу мам набытым,
Хоць і трымаецца жыццё
Сваёй арбіты.

І лёсу белыя буслы —
Блакіту ветразі жывыя —
З вачэй ваколіцы сышлі,
Нібы чужыя.

І ўжо суседка ў дваццаць год,—
Зусім не з гора,—
Да болю ўцісну ўшы жывот,
Прастуе ў горад.

Туды, дзе камень, сталь і шкло —
Ў каморку быта,
Дзе забываецца крыло
Буслоў над жытам.

Дзе сніцца ноччу ў дзіўных снах:
З-за мора сіня
Буслы па белых двух крылах
Нясуць ёй сына...

**Пастскрыптум**

Любоў малітваю была
І забаронным плодам.
І з небыцця вярнуць магла,
Крануўшы мімаходам.

Ад сонца я твайго аслеп
Вясновым днём зялёным,
І падкусіў твой дзённы хлеб,
І сцёр твой пот салёны...

І, пэўна, зведаў да канца
Зямной любові мукі.
І ўсё ж не стаўлю ёй вянца,
Хоць размыкаю рукі

З рукамі любай, што была
Малітваю і хлебам,
Што з небыцця вярнуць магла,
Адкуль вярнуцца трэба...

**Ганцы любові**

Зіма. Сняжыць. Жаўцеецца пакутна
Акно твайго жаночага закутка.
Брыду няўцешна. Мераю сумёты...
Як доўга век цягнуўся да суботы?!
Каб сёння тут стамлёная дарога
Прыпала ніцма да твайго парога...

А дзве душы — любові два ганцы —
На два супрацілеглыя канцы
Дарогі той, замеценай наўсцяж...
Што розум наш?! Як мудра ні разваж
Застудзіш рукі...
                                        І чакаем мы
Ганцоў любові — весніх сноў зімы.

* * *

Не сцялі мне мяккую пасцелю —
Буду доўга, беспрабудна спаць.
Пра цябе забуду, не паспею
Самае галоўнае сказаць.

Пасцялі мне цвёрдую пасцелю.
Так, каб з неахвотай клаўся спаць.

Уставаў на зорцы і паспеў бы
Аб жыцці галоўнае сказаць.

* * *

...Няма Веранікі...
Дзяўчаты вясковыя
Ля сцепаў панікл і,
Як лялькі васковыя.

Што булачкі здобныя,
Іх твары зліваюцца.
Тапцуюць падобна,
Як лён рве Ульяніца.

І хлопцы выходзяць,
Рукамі двужыльнымі
Махаюць, бы косяць,
Як Ясь канюшыну.

Пад дахам Айчыны —
Заходнія рыкі...
Сумую вачыма —
Няма Веранікі...

**Сумны жарт**

Яна чакала прынца
З семнаццаці гадоў,
А прынц, нібы на прынцып,
Каторы год не йшоў.

Прыходзілі такія,
Што ўсё не па душы:
З грашыма, а — пустыя,
З грахамі, а — вужы...

Вось-вось трыццатай мерай
Пальe халодны дождж...
А прынцаў усё меней.
Адзін другога горш.

Раскосіліся вочы:
Ну, дзе той хлопчык-пай?
...І ўсё ж адзін аднойчы
Пад ногі ёй упаў.

Так горычна скуголіў!
Без вас, маўляў, не жыць...
І раніцай дазволіў
Сябе апахмяліць...

* * *

*Любові А-вай*

На уфімскім начным вакзале
У паўзмроку шурпатых сцен
Дзве душы святлом абрасталі,
Як святлом абрастае цень.

...Як гуляецца нам на волі,
Пустацелым і маладым?
Нашы мроі — ў прыволжскім полі,
Нібы той паравозны дым.

Наша памяць — на тым паўстанку,
Дзе пакінула ты вагон
Целам, позіркам...
Да астатку
Дзён, што коцяцца пад адхон...

Будзе ў памяці адзывацца
Ўсё пражытае ў дні адным:
На імгненне — імгненне шчасця...
І да смерці — мальба аб ім.

* * *

Забываюцца нягоды.
Заціраюцца сляды.
Сярод дзіўнага народа
Адгуляў я, малады.

Адгуляў, адкарагодзіў,
Нажадаўся усяго.
Там цяпер нідзе не знойдзеш
Суму юнага майго.

Можа, ў снах адной жанчыны
Заначую, як тады —
Без адзінае маршчыны,
Развясёлы, малады?

Ці не гэтая жанчына
Паўстае перада мной
З першай грэшнаю маршчынай,
З першай грэшнаю бядой?

* * *

*Любові А-вай*

Я з Вам і развітаўся,
Ды Вас я не забыў.
Чым далей аддаляўся,
Тым болей Вас любіў.

Прабачце, што з гадамі —
І.ў снах, і наяву —
Жыву хоць і не з Вамі,
Ды Вам і я жыву,

Што зноў магу валодаць
Усім, што мог забыць...
Мне дадзена свабода
Без жалю Вас любіць.

Гады не астудзілі,
Што ў памяці цяплю:
Вы ўсё ж мяне любілі.
...А я — дзівак — люблю.

* * *

*Любе А-вай*

Пакуль табе здзіўляюся —
Яшчэ цябе люблю.
Разгадваю, губляюся,
Твой цень — сваім — лаўлю...

Не стань — малю — звычайнаю,
Знаёмай і зямной.
Застанься вечнай тайнаю,
Нявызнанаю мной.

Спакусай недаступнасці,
Агнём начным гары,
Каб выведаў да сутнасці
Я цемру да зары.

Каб жыў я неспатолена
І верыў — дзень пры дні —
Што будзе мне дазволена
Згарэць на тым агні.

* * *

Няўжо я калісьці кахаў без спачыну
Забітую бытам вунь тую жанчыну?

Няўжо то яііа мне тантала да рання
Гарачымі вуснамі словы прызнання?

Няўжо абмялелі той ноччу адзінай
Азёрныя вочы упаўшай слязінай?

Няўжо і душа адгуляла, і цела
І ўсё адбылося, чаго так хацела?

І тэты мужчына —
двурушны, падпіты —
Яе ашчасліviў?
І, значыць, мы — квіты.

* * *

Дзяўчынка...
Суцяшэнне...
Матылёк...
Як вусны тваёй дзіўнасці малілі!
Тваім з'яўленыем веяла здалёк,
Як пахам пераспелае маліны.

Маліны той, дзе сонечнасць палян
Таемнасцю высокай паланіла,
Дзе рэха адгукалася на зман,
І ад чужой рукі не бараніла...

Далёкая, ты ў ліпеньскіх гадах!
Што ж студзеньскаю ноччу мне не спіцца?
Малінавы плыве на хаце пах...
Забыць...
Забыць...
І ў немачы забыцца...

* * *

Па куль мы шукалі
Адзін аднаго,
І — Лань-рака абмялела,
Лясы наўкол — парадзелі,
І неба стала ніжэйшым.
Восень стаіць у двары...

Пакуль я любіў цябе,
Ты — маладзела
На столькі, на колькі старэў я...
Жыццё прамільгнула —
Пакуль я аб вечнасці думаў...

А ты — маладая!

* * *

На грудку, на бур'яну,
На пагосце вечным
Чалавека памяну
Словам чалавечным.

Хто ты?
            Дзе?
                        Калі ты жыў?
Ні імя, ні даты —
Мне травою раскажы,
Як жывому брату.

Каб задумаўся і я
Аб тваёй нагодзе
І шукаў свае імя
У сваім народзе.

...Каб на ўзгорку бур'яну,
Тут, на раздарожжы,
Добрым словам памянуў
І мяне прахожы.

* * *

Я развітаўся з часам
Былых шумлівых дзён,
Дзе ўсе крычалі разам —
Ніхто не быў чуцён.

З тым часам развітаўся,
Нібыта з дошкі сцёр
Накрэсленасць натацый:
«З каго рабіць жыццё...»

І цішы гэтай холад
Абраў не для слязы...
Хачу пачуць свой голас
І вашы галасы.

* * *

I развіталыіае крыло
На лузе птушкі пакідалі.
*М. Стральцоў*

Паспавядацца б...
Толькі — перад кім?
Па-свойску ўціснуць галаву ў калені,
I выдыхнуць — як жыў,
і на ўспамін
Свае пра свет пакінуць уяўленні.

Люблю жыццё!
Як страшна адысці
Не выверыўшы боль ад болю іншых.
Душу, як птушку,
ўзяць — і адпусціць...
Няхай ляціць туды, хоць да ўсявышніх.

Раскажа хай, як плачацца ўпачы,
Чакаючы і сонца і світання...
Пакуль жывеш —
маўчы,
маўчы,
маўчы...
Выбольвай слова перад развітаннем.
Яно — ты Сам.

* * *

Я вымаўчаў гэтыя вершы
І вынасіў іх, нібы плод
Жанчына свой грэшны і першы,
Жыцця прадаўжаючы ход.

Я вытварыў вершы паслоўна,
Пастрофна — вянец да вянца...
Чытач іх дамысліць па-свойму,
Развінуўшы думы тварца.

Няхай нават там ён, дзе роўна
Я дыхаў, затрымліваў дых...
Ён будзе ўсё роўна мне кроўным
Сааўтарам думак маіх.

І ў тым я не маю самоты,
Што нас у Айчыне звяла
Адзіная нрага работы —
Тварэнне Дабра, а не зла.

Мой мілы чытач, мой сааўтар —
Нам ганьба адна і хвала! —
Давай будзем думаць пра Заўтра
Праз поч да праявы Святла.

Каб нот свой губляючы з твараў
У свежы пракос ці ў раллю,
Мы зпалі, што ўсё-ткі не дарам
«Зямлю» рыфмавалі з «люблю».

## Воблакі Айчыны

*Пімену Панчанку*

Над лёсам воблакі плывуць.
Над лесам воблакі плывуць,
Над вёскай, над прырэчнай поймай...
Пад імі людзі скрозь жывуць
І бачаць воблакі па-свойму.

Я ж бачу ў іх узнёсласць мар.
Ён — копы высахлай атавы.
О, «дым салодкі і гаркавы» —
Айчыны бескарысны дар!

Далей, туды яны плывуць,
Дзе людзі іншыя жывуць.
Яны таксама іх убачаць.
Сваё ў іх вызначаць, адзначаць,
Айчынным словам пазавуць.

Аблокі, воблакі ў абшары —
Даў бог — не хмары ўсё ж, не хмары...

**Ненапісаны верш пра зарапад**

У вёсцы ні апошні я, ні першы.
Адметны тым: пішу, бывае, вершы.
Ўсе ў рыфму, ды, гаворацць, неўпапад.
Сягоння б напісаць пра зарапад.

А я ўначы стаю ў двары, куру.
З сабою сам у думках гавару.

Пра інваліда думаю, пра дзядзьку,
Які не перакрыў на восень хлеў,
Пра брыгадзіркі хату, нібы цацку,
Пра чалавека, пра Айчыну, хлеб...

Пра тое, што не ўсё і ўсюды лад.
Пра залаты пісаць бы зарапад.

А я пра гэты чорпа-белы свет.
О, як хрыпеў прад смерцю родны дзед
Пра вечнасць, пра жыццё,
пра свой уклад.
Гарыць трывожна ў небе зарапад.

І іншапланецянін у сусвеце
Стаіць, як я, на нейкай там планеце,
Магчыма. На зямлю маю глядзіць.
Ляціць яна ў туманнасці. Гарыць.

Здзіўляецца? Трывожыцца? Наўрад.
Ён думае: звычайны зарапад.

* * *

Як варожым слоўным хмелем!
Сцелем цені летуценняў!
Мелем словы, мелем, мелем,
Трэм між рыфмаў супляценняў...

А пасля спрабуе крытык
Верша сэнс знайсці ў падтэксце.
Хто не ўзяў адразу крыкам —
Шэптам выслязіцца ўрэшце.

Мне ж баляць людскія болі,
Ды і ўласны боль тужляе...
Праўды!
            Веры!
                        Хоць бы солі
Той, што раны выяўляе.

І як «SOS» аб набалелым,
Не манкіруючы зместам,
Я пішу аб свеце белым
Так як ёсць — адкрытым тэкстам.

* * *

Бель ад зямлі і да нябёс,
Забытасць болю.
Увесь — ад крывінкі і да слёз —
Вітаю долю!

Пацверазелі да святла
Душа, прырода...
Прышэсцем святасці Хрыста
Мне — Дух Народа.

Я нажадаўся сам даўно
Пажыць нанова.
Хай нас сагрэе не віно —
Цяпельца-слова!

А ўсё ж, калі захалане
Ў віхурнай скрусе —
Хай адгукнуцца людзі мне,
Ім — адгукнуся.
Ад лесу ў роднай старане
Не адракуся.

* * *

Свой белы верш пра чорную бяду
Пішу не для прыхільнікаў паэзіі —
Пішу я для прыхільнікаў жыцця
І ў тых імя, што так жыццё любілі.

Як быў далека горад той ад нас,
Ад нашых вёсак, гарадоў і хатаў,
Што нават і не ведалі, што ёсць
Ён на Палессі з назваю Чарнобыль.

І раптам — блізкім стаў ён, як сусед-
Пенсіянер, што не залечыць раны.
Так блізкі, як суніцы ад рукі
У пашым лесе, як вада са студні...

Як светлая дзяўчына, у якой
У клініцы нрызналі лейкемію.
А ёй — семнаццаць. У двары — вясна.
І над акном насвіствае пагодак...

Што розум наш без мудрасці?! Заўжды
Ён небяснечны для ўсяго жывога.
Рука тварца без мудрасці — карае.
І ў гэтым вінен не адзін тварэц,
А ўсе мы, як падсобнікі задумы.

...Не з раніцы да вечара жывём.
Жывём ад чалавека к чалавеку.
Дай бог дажыць нам ад сябе да Ўсіх!
Дай бог ва ўсіх пазнаць Сябе самога!

**Элегія высахламу дрэву**

Дрэва, што дзед пасадзіў,
Высахла, як высыхае
Усё, што губляе сувязь
З глыбінным сокам зямлі,
І разам губляе сілы,
І болей не пладаносіць.
Так высыхае студия
Ў бязлюдным, пустым двары.

І толькі ў счарнелай кроне
Яшчэ засталіся песні
Тых птушак, што тут спявалі.
Мне чуецца гэты спеў
Начамі, калі не спіцца,
Ў часіны, калі мне сумна,
Калі грызе адзінота...
Я слухаю гэты спеў.

Прыходзь у такія хвіліны,
Мой верны і даўні сябра,
Паслухаць былыя песні,
Якія слухаў мой дзед,
Бо хутка спілуюць дрэва,
Бо ўжо забываюць птушкі,
Што тут і былі іх гнёзды
І песні іх тут жывуць.

**Пагляд з-пад рукі**

Леснікі ў акрузе багацеюць.
Леснікі жывуць, што каралі.
А лясы чамусьці не гусцеюць —
Высыхаюць лесу карані.

На абход — нярэдка на машыне.
Што ж, няхай — на тое ёсць прагрэс.
Толькі ад таго няхай не гіне
Лес Айчыны, і не толькі лес...

За руку нікога не лаўлю я,
Але добра бачу з-над рукі:
Хто жыве гарбом, а хто — крулюе,
Хто па шляху йдзе, хто — нацянькі...

І такая крыўда абуяе
За народ работны, што парой
Розным злыдням бэсціць дазваляе
Ўсё, што потам выйшла і крывёй.

Замаліць, а лепш спісаць звычайна
Вельмі проста ўласныя грахі...
(Ўсе паўсюль мы ў чымсьці леснікі.)
А пара б на ўсё глядзець дзяржаўна:
Жыць надзённым, думаць пра вякі.

* * *

Як прагнуў я кампаній,
Так прагну адзіноты.
Мяне за грош куплялі —
За два збывалі потым.

Хачу я зблізку глянуць
На свой абсяг Айчыны,
Ўздыхнуць... і з жалем кануць
Душой за аблачыны.

І плыць бязмоўна, ціха
Над мілым родным краем —
Над раненай ласіхай,
Над чорнай воўчай зграяй,
Над жоўтым жытнім полем,
Над сушаю балоцін...
Далей, далей ад болю!
Далей, далей ад плоці!

І з той высокай далі
Былому адгукнуцца.
Туды, дзе не чакалі,
Абноўленым вярнуцца.

І прагнуць зноў кампаній,
Як прагнуў адзіноты,
З адказам на пытанні:
Адкуль? Чаго? І — хто ты?

* * *

Набеглі неўпрыкмет мае гады.
А ўчора яшчэ толькі, мне здаецца,
Я лётаў што ёсць сілы — малады —
Не чуючы ні ног сваіх, ні сэрца...

Час нацягнуў управы павады.
(А повад лесу моцны — не парвецца!)
І з кожным крокам дзённае хады
Стаў адчуваць, як глуха сэрца б'ецца.

Дык, значыць, ёсць яно ў мяне?!
Жывое!
          Ёсць!
І час нягод яго апутаў спрутам.
Я па зямлі таксама, значыць,— госць,
Дзе ў мёд і мне падмешана атрута...

...Магчыма, ўскрыўшы там мяне, па смерці,
Так скажуць:
                    «Жыў...
                              Было з чаго памерці...»

**Вераб'іная зона**

Дзяўчынка корміць галубоў,
Ды, покуль крошкі ім кідае,
Хаўрус харобрых вераб'ёў
Іх на ляту амаль хапае.

Ганяе іх. Ды што з таго —
Іх плойма цэлая ў прысадах.
Пакуль аднудзіць аднаго —
З другога боку ўжо дзесятак.

Да плачу хутка давядуць...
Гукае дзядзька ёй з балкона:
«Ды не ганяй ты! Хай дзяўбуць.
Тут вераб'іная ў нас зона.

Ён працавіты, верабей.
Зпішчае ў садзе насякомых.
А голуб што твой? Дуралей!
Гультай! А цягнецца да корму...»

Глядзела доўга на яго
Дзяўчынка тая са слязамі.
— Раз працавітыя, чаго ж?
Тады і кормяцца хай самі...

**Сучасны сон**

Прыснілася: чорнае неба,
Задымны, глухі небасхіл;
Зямля — пакалечана, нема —
Цямнее без хат і магіл...

Адзін на зямлі я. Пустынна.
Паветра атрутнае п'ю...
І кроў мая юная стыне
Па ўсім, што любіў і люблю.

І ў некельнай той крутаверці
Няшчадная дума баліць:
Не страх адзінока памерці,
А боязь адзінаму жыць...

І ўсё ж, на апошнім уздыху,
Адрыну сябе з забыцця,
Ці то ад уласнага крыку,
Ці прагі святой да жыцця.

Да ранку не змежу павекаў,
Не ў сілах той сон разгадаць,
Дваццатым навеяны векам...
ЯК СНУ ТАМУ ЗБЫЦЦА НЕ ДАЦЬ?

* * *

Я — дзіцём — крыклівым быў і шумным.
Суцяшала маці між гасцей:
«Супакойся, сынку, будзь разумным.
Дай спакойна выслухаць людзей».

Сталым стаў. Трываў я лёсу хватку.
А калі аднойчы не сцярпеў...
«Раскажы,— сказалі,— па парадку.
Дай спакойна выслухаць цябе».

І цяпер, калі мне ў адначассе
Верш душу-шкарлупіну дзяўбе,
Гавару сабе я: «Не спяшайся,
А спакойна выслухай сябе».

Час імкне жальбы і суцяшэння,—
Хто за нас слабей і маладзей...
Дай мне, божа, мудрага цярпення,
Каб спакойна выслухаць людзей.

* * *

Я сейбітам паэта уяўляю.
(Ах, колькі не засеяна пустынь!)
Душы і рук сухімі мазалямі
Даюцца хлеб і слова як заўжды.

Жыцця пачатак задаволіш хлебам.
І слову не задумаешся ўслед...
Ды прыйдзе час — і ажыве патрэба
Тых самых слоў, што даражэй за хлеб.

Жыццё наскрозь прапахне
спелым жытам.
Душы выснова высмягне ад слоў...
І гэта ўсё табою пражыта,
І трэба пражыць усё наноў,
Калі ты сейбіт...

**Даўгі**

Нясkладны лёс ты мне прыдбала, мама.
Ці я ў ім сам чагось недаглядзеў?
Была б сягоння даўгавая яма
Ў законе ў нас — я там бы ўжо сядзеў.

Даўгі... Даўгі... Я менш за ўсё
пра грошы.
Хоць, што казаць, і грошай нагуляў...
А жыў бы бестурботным і харошым,
Калі б сябе і ўсіх не выяўляў,
Якімі ёсць прад гэтым белым светам,
Якімі мы павінны ўсё-ткі быць.
А быў бы полем, што пыліць пад ветрам.
А быў бы ветрам, што ў палях пыліць...

Хвала даўгам, якія мне плаціць
У сё жыццё, каб чалавекам быць!

* * *

Здабыў сваю волю.
Вітаю вясну!
Даволі, даволі
Зімовага сну!

Даволі ідылій,
Ружовенькіх мрой!
Да новых Бастылій,
Прыспаны герой!

Між дрэў і між кветак,
Між зор і расы
Засеем палетак
Духоўнай красы!

Ад бога — да плуга.
Ад слова — да справы.
Па вечнаму кругу
Здзяйсненняў і праўды.

Агню давяраю
Сябе і малю:
Хай сонца згарае,
Ды грэе зямлю!

Дзе людзі спрадвеку
Шукаюць свае.
Зямля чалавека —
Бяссмерце мае.

**Паводле народнага**

Нешта невяселіцца.
Нешта ўсё сумуецца.
На душы мяцеліца
Месяц не ўтаймуецца.

Не хапае нечага
Светлага, высокага,
Што і цёмным вечарам
Лечыць адзінокага.

Ці то сябра чулага,
Ці жапочай вернасці,
Ці ўсяго, мінулага,
Што назад не вернецца?

Звергну гэтай замеці
Сумпую традыцыю —
Наталюся памяццю,
Як жывой вадзіцаю.

Сябра ўспомню ветлага,
Дзеўку незаручанай —
Стане светла-светла мне,
Светла да балючага...

* * *
Ёсць два няведанні, ў якіх вучуся
Шчаслівым быць і знаць сваю пару:
Не ведаў дня, калі я нараджуся,
У якую ноч — не ведаю — памру...

Як ёсць два веданні, з якімі я змірыўся
І ў іх прамежку полымна гару:
Я ўсё-такі аднойчы нарадзіўся,
І ўсё-такі аднойчы я памру...

Таму заўжды і радасць і нягоды
Я успрымаю, як бясцэнны дар.
Народжаны разумнаю прыродай,
Нясу наканаваны мне цяжар.

Ды што мой лёс сярод мільёнаў лёсаў?
Ёсць лёс зямлі і чалавецтва лёс...
І ўласныя бяды і шчасця слёзы,
Як кроплі ў моры сярод мора слёз...

Вось і сягоння ўстаў я раным-рана —
Ледзь сны, як летуценні, адышлі —
Гляджу ў акно: там сонечна ці хмарна,
Шчаслівa ці бядова на зямлі?

* * *

*Памяці Сукача Паўла*

Навошта яго над зямлёй узнялі
На дужых руках маладыя мужчыны?
Ён сам пры жыцці ад радзімай зямлі
Не мог адарвацца, як след ад сцяжыны.

Хутчэй — у зямлю!
Ён і сват ёй і брат.
Ён зведаў яе дасканала глыбіні.
Капаў ён калодзежы — ўсе акурат,
І ўсе жыватворнай крыніцаю білі.

Навошта ж яго над зямлёй узнімаць?
Навошта ў зямлю яго зноў апускаць?
Няма там вады...
Ён бы мог надказаць:
Глыбей тут капаць
ці зусім засыпаць...

**Ода рукам**

*Святлане Гарбуновай, аўтару*
*помніка Сымону Буднаму ў г. Нясвіжы*

...А перш чым сустрэўся я з вамі —
Сустрэўся ў Нясвіжы я з Будным
І з тымі сівымі вякамі,
Што нашы прыспешвалі будні.

Пасля ўжо сустрэўся і з вамі
Ў гасцях у Багрыма, у Крошыне,
І ўсё надзівіцца рукамі
Не мог — яны памяць трывожылі.

Такія вось рукі і ў маці.
Таму мой і лёс не бядовы...
Схіліцца б і цалаваць іх,
Напіцца б з далоняў іх мовы!

Не густа сяброў маіх новых
З'яднана айчынным палонам...
Паэт і мастак Свістуновіч
Вітаў вашы рукі з паклонам.

І сам у Нясвіжы я слынным
Успомню пра вас, і здаецца,—
Ўсё чуйней на голас Айчыны
Маё адгукаецца сэрца.

* * *

Сумленне — гэта фільтр
Душы.
            Самааддача.
А слава — хмельны флірт
З часоваю удачай.

Пакольки фліртаваць
Мне з Музай не выходзіць,
То трэба фільтраваць
Пачуцці, што адбродзяць,
І ў солі мёд шукаць,
І ў мёдзе соль знаходзіць.

Тварыць не манумент
Нашчадкам для акрасы,
А праўды дакумент
Свайго зямнога часу.

* * *

Што геніям маліцца, бог ты мой!
Малюся толькі мацеры адной.
Той, што пад дахам жнівеньскае ночы
Пусціла ў свет мяне.
                    І - я пакрочыў...

І ўсё, што ў ім знайшоў я ці знайду,
Адзінай ёй — на радасць і бяду.
За тое ж, што не змог і не змагу,
Не геніі прад ёй, а я — ў даўгу...

Ёсць мацеры і ў геніяў саміх —
Падобны лёс не зліставаўся з іх.

**Роздум аб шчасці**

Пусцее вёска вонкава.
                                                    Нутро
Яшчэ жыве.
                          З відна і да пацёмкаў
Спіны не разгінае аніхто —
На цэлы век адна на ўсіх падзёнка.

Спялее год. І вецер-абібок
За хмару не загоніць нават сонца.
Глядзяць вяскоўцы ў прыбалтыйскі бок
Святлынь штодня стаіць на гарызонце.

Як мудрасць, невычэрпная да дна,
Так і любоў бязмежна да Айчыны.
Таму заўжды з відна і да цямна
Вяскоўцы і радзеюць без спачыну.

І не клянуць ні бога, ні свой лёс.
Жывуць, як ім падказвае сумленне.
Крыві праліта тут не менш, чым слёз,
Таму і шчасцю іх няма здзіўлення,

Калі яно складаецца з крупіц:
З мазольных рук, з душы, з укладу рода.
Адно з адным, адно ў адно зляпіць
Ў сваёй Айчыне для свайго народа —
Шчаслівым быць.

* * *

Дарэмная мара...
Пакуль ты жывы,
Датуль ты не будзеш свабодным
Ад дому, ад думы, ад слёз і крыві —
Шчаслівы, знясілены, потны...

Залежным — ад блізкіх і розных людзей
У гэтай жыцця крутаверці...
І нават — залежным ад светлых надзей,
Пакуль ты свабодны ад смерці.

* * *
І як бы ты ні спяшаўся,
А ўсюды якраз не паспееш.
І як бы ў дарозе ні бавіўся,
А прыйдзеш раней, чым думаў,
Да часу свайго апошняга...

* * *

У мяне чалавечныя сны.
У мяне бескарысныя мары.
Мне не сніліся жахі вайны
І крывёю залітыя твары.

Я не вінен за жахі вайны.
Сам яе крапівою карміўся.
А хіба вінаваты яны,
Хто раней за мяне нарадзіўся?

Усё меней калекаў-салдат,
Што расказваюць праўду-святыню.
І стаіць на касцях Сталінград,
І на попеле стынуць Хатыні...

Часта кажуць рэдактары мне:
«З ветэранамі ў хоры спяваеш.
Ты ж — не бачыў... Не быў на вайне.
А крывёю радкі заліваеш...

Маладым неабходна пісаць
Пра любоў, пра Айчыну, пра маці...»
Што на гэта магу ім сказаць?

Я — на ўліку у ваенкамаце.

**Званы трывогі**

Зноў трывожаць начныя сны.
Бачу: сонца гасне ў зеніце:
Б'юць званы!
Б'юць трывогі званы
Не праспіце!

Дзед Паўлюк не прыйшоў з вайны
Колькі ўсіх дарагіх там легла?!
Нашай памяці б'юць званы!
Болей нельга!

Ад напалму гарыць зямля.
Нехта шчэрыцца ў Вашынгтоне.
Б'юць званы!
Будзе позна пасля —
Устань сягоння!

...Як смяецца дзіця вясны!
Як палае сонца ў зеніце!
Толькі — чуеце? — б'юць званы!
Не праспіце!

* * *

Нітку памяці абарвеш —
І забудзеш АДКУЛЬ жывеш.
Хто твой продак?
                                        Дзе карані?
Бог, ад гэтага барані!

Нітка памяці — ніткай вернасці.
Нітка памяці — ніццю вечнасці...

І жыву на сваёй зямлі
Навідоку усёй планеты.
Дзе сляды мае пралеглі —
Там і песні мае прапеты.

* * *

Шукаю крыніцу чыстую.
І прагну пазнання вечнага...
У стыні вячорнай выстаю
Да высеву Шляху Млечнага,

Пакуль у высокай далечы,
Дзе светла і шырай зорыцца,
Душа, сябе наталяючы,
З Сусветам не разгаворыцца.

* * *

Свой вымяраю век
няспешным ходам пешым —
Ад чалавека к чалавеку.
А нехта вунь
жыве ўжо ў дваццаць першым
Нейтронным веку!

Такі вось лёт —
міргнуць не успеет вокам —
Ён на дзесятай парыцца вярсце.
Мой шлях не ўсцелены
ні пухам і ні шоўкам,
Але й асот за мною не расце.

Балотамі, лясамі,
сушай, бродам
Прайду, як гаспадар — не пілігрым.
Хачу, каб стала ўся
як ёсць прырода
Мне — чалавеку — Помнікам маім.

* * *
Вышэе сонца.
                    Пепяцца сады.
Рукам руплівым не шукаць спачыну.
І вецер, як гарэзнік малады,
Ганяе, як пушынку, аблачыну,
Пазбаўленую грому і бяды.

Зямлю адчуўшы босаю нагой,
Дзіця — душой забыўшыся на розум —
Пачуццямі даходзіць да ўсяго...
А я ў паэзіі шукаю ПРОЗУ,
Каб вызначыць далейшы лёс яго.

* * *

Пачатак мая.
                                        Затравела.
І слёзы высахлі ў бяроз.
Ўсё, што зімою адкалела,
У квет пайшло і буйны рост.

І ў садзе ў нас — ружова-бела...
Фуфайкі сохнуць на платах...
Ўсё ажыло, што адкалела:
Душа,
             прырода,
                          неба,
                                    птах...

**Рыце Андронавай**

Салаўіны пошчак Масквы —
На бульварах, дзе дрэвы ўраскід!
Быццам родны голас жывы
Тэлеграфам адбілі з вёскі.

У душы, што ты хочаш, прасі!
Я блукаю, як апантаны.
Натыкаюся на таксі,
На збянтэжаных закаханых...

Да світання ўсю ноч не сплю.
У гэты час адраджэння весні
Нават мёртвы камень люблю
Пад акорд салаўінай песні.

Не задумваўся дома я,
Што на плоскіх пустынных плошчах
Ноччу ўчую я салаўя…
А ў Маскве — салаўіны пошчак.

**Маскоўскі маёвы эскіз**
**з паэтам Шніпам**

Выйдзем, Віця!
Пакідаюць сілы...
Не магу я на паверхах жыць.
Сваякі ў Маскве ёсць.
Едзем, мілы!
Над зямлёй чыгунны шлях бяжыць...
Думна.
Душна.
Хоць і аднадушна
Дрэмле люд.
Калышацца вагон,
Сувяззю звязаўшы непарушнай
Нас усіх.
Парве яе перон.
З-над зямлі — наверх.
Не разгубіцца б.
Нам — направа.
Вунь, праз гэты лаз.
А на ўскраіне, глядзі, і пыл клубіцца,
Лес відзён,
нібыта ў вёсцы ў нас.
Вось і дом.
Кватэра не высока.
І сабака спіць каля дзвярэй.
Ну, звані, валожынскі мой сокал!
Ты не шчэрся, пёс, і не звярэй.

Свой народ — не чуеш хіба духу?!
Адчыняюць...
І — пайшло,
пайшло...
Віця, я скажу табе як другу:
Ўся Масква ёсць беглае сяло...
Нас адсюль не выведуць пад пахі.
Заначуем.
Толькі не да сну:
Дзве сястры, як дзве лясныя птахі,
Ценькаюць за сценкай пра вясну...

**Лістапад**

Зноў восені мудрай пара.
Пара пладаносу і думак.
Халодныя цені ў дварах
Шукаюць зацішны прытулак.

Бязлістыя кроны лясоў
Згубілі сваю гаманлівасць —
Птушыных даўно галасоў
На іх не чуваць вершалінах.

І ў чыйсьці не выстылы след
Ступіўшы зусім выпадкова,
Адчуеш, што сам ты і свет —
Адно непадзельнае слова.

* * *

І ў маладой бярозы, і ў старой
Вясной шуміць зялёны лістабой.
Адрозніць цяжка: дзе чыё лісцё —
Адна зямля, адзіцае жыццё.

І восенню асыплецца на дол
І са старой лісцё, і з маладой.
Ідзеш, ступаеш па сухім лісці —
Не ведаеш, як старасць абысці...

* * *

Глыбокая восень стаіць у дварах.
Гуляе па наледзі юная сука.
Смала настывае на голых ствалах
І свеціцца ў ёй вераснёўская муха.

І пілка віхляе па дубе, як смык.
І звоніць сякера ў суках анямелых.
Зімою жыву ў прадчуванні зімы,
Нібыта з суботы жыву на нядзелю.

А месячнай ноччу па зорнаму шклу
Мне ціха-загадкава стукаюць тыя,
Каго я балюча і светла люблю,
Як любяць у старасці дні маладыя.

І ранкам разбудзіць мяне не адчай,
А памяць душы і каханай заколка...
І маці прастуджана скажа: «Уставай...»
І белую нітку працягне ў іголку,
Белую нітку зімы:
ад восені — да вясны...

**Восеньскі матыў**

Восень на двары.
Дождж...
Думай і куры.
Што ж...

Думай пра вясну,
Май.
На змярканні сну
Знай:

Восень на двары,
Дождж...
Ты дажыў пары
Ўсё ж,

Калі дзень адзін —
Век.
Час бярэ — глядзі —
Верх

Над жыццём тваім
Скрозь.
...Сонца круціць зім
Вось...

* * *

Я увайшоў у гэты лес дрымучы
І заблудзіўся між высокіх дрэў.
Асенні ліст, як боль душы — трывучы,—
Яшчэ не адпалаў, не адгарэў.

Нізіны занавешаны туманам.
На вершалінах сонца бляклы дыск.
Трава перагарэлая дурманам
Прапахла над накрапамі вады.

І ўсё ж жыццё ні ў чым не амярцвела.
І я, зачараваны ўсім, блуджу
Па лесе тым, дзе хутка стане бела —
Засыпле снегам кроны і душу.

Не выйсці мне тады адсюль, нанэўна.
І стану я, нібыта той маньяк,
Любіць жывое ўсёй істотай, крэўна...
Дай бог, каб гэта здарылася так!

**Перадзім'е**

У восені пахаладзелы твар.
І павуціну, што на голлях-кроснах
Наткала, як уцэнены тавар,
Разбэрсала па выстылых барознах.

Да лесу вецер агранома здзьмуў.
Адна дэмісезонная варона
Прарочыць крычма гора і зіму,
Прад ёй — як агрhigher — безабаронна.

А трактарыст, ён чхаў на іх бяду!
Апошні клін даворвае папару.
На ноч злівае з трактара ваду.
Глядзіць на стылы небасхіл пажару...

Свярбіць яму надзённая патрэба
Ў цяпле, дабры, акрайцы жытнім хлеба..

**Сучасная трагедыя**

Паўдня хадзілі ў лесе паляўнічыя,
Падраніўшы галоднага лася.
Здаволіўшыся іншай павяндлічынай,
Рукой махнулі: «Выжыве... Пасля...»

Наш свет агучан гімнамі і клятвамі.
Памры свабодным, лось, і маладым!
...Ваўкі дзве ночы ўсё яшчэ аплаквалі
Сумленне чалавечае над ім...

* * *

Рагаты лось дарогу перакрыў,
Нібы шлагбаум,— не выпускае з лесу.
Як рэдка нас цяпер, мае сябры,
Прырода адрывае ад прагрэсу.

Стаю.
          Куру.
                    Гляджу на горды стан.
Ён — на мяне з трывожным недаверам.
Да вёскі тут — не болей чым вярста,
І можна не баяцца браканьераў.

Сышоў нарэшце.
                              Выпусціў з сіла.
Іду...
          Брыду...
                              Няўжо я заблудзіўся?
Ці то ад лесу веска адышла,
Ці, раптам, лес ад вёскі аддаліўся
На паляўнічы стрэл
                              і на ласіны рык?

**Дарожная элегія**

Гусцее лес...
Апоўначы дарога
Губляецца, як прывід, паміж дрэў...
Не страх перапаўняе, а трывога,
Яе таемны,
жудасны напеў.

Дзве зоркі за прагалам вершаліны,
Як начнікі з далёкага акна,
Душу мне супакояць на хвіліну,
Ды шляху не асветліць ні адна.

Кладзецца ён пад ногі асцярожна,
Нібы жыцця заблытаная ніць.
І ціхі сум элегіі дарожнай
Звініць і плача...
Плача і звініць...

* * *

Ноч — налітая цемраю чаша.
Прыгублю яе востры настой.
Хай душа і смяецца, і плача
Над бязладнаю доляй маёй.

Дачакаюся зоркі світальнай
Пеўчай птушкай у стылым гняздзе.
Ўспыхне свечкай яна памінальнай
Па апошняй, магчыма, бядзе.

Неба колер надзене ружовы,
Ледзь адкрые зямны гарызонт...
Прачынаюцца маміны словы.
А мае — закалыхвае сон...

## Апантанасць

Па ранішняй траве —
Расістай і калянай —
Прабегчы.
Хай жыве
На свеце апантанасць

Няспраўджаных надзей,
І мрояў, і памкненняў!
О, не пакінь людзей
Ты, радасць сатварэння!

Няхай пральецца пот!
Няхай пральюцца слёзы!
Бяжыць не раб, а — бог.
Расхлістаны і босы,

Па ранішяй траве,
Расістай і калянай.
Няхай, няхай жыве
На свеце апантанасць!

Спытаюць: ты куды?
Ды тут — скажу я — блізка,
Дзе коуш жывой вады
Яшчэ вартуе пліска.

* * *

Пляменнік вучыцца хадзіць.
Ілбом тараніць перашкоду.
Баліць... Ну, ведама, баліць.
Шчаслівы боль у год ад роду!

Кірыл, чым больш ты будзеш жыць,
Тым падаць будзеш больш балюча.
Дарога ў белы свет ляжыць.
Па ёй ідуць і майстра й вучань.

Таму вучыся ўсё ж хадзіць
І валадарыць над сабою.
А цела?
Што ж, няхай баліць.
Хай прывыкае цела к болю.

І будзе час з табой спяшаць,
А ты ўсё ж запавольвай крокі —
Ўглядайся ў свет, каб і душа
Спазнала боль жыцця высокі.

**Пляменніку**

Пляменнік мой,
Дзіця маёй сястры,
Яшчэ не знае, на якім ён свеце...
Яшчэ ён нараджаецца знутры
Ўсяго вакол, нібыта ў полі вецер...

Ён лупае вачыма на мяне.
Балакаю я з ім на роднай мове.
Няхай жа лёс яго не абміне:
З душой сваёй спазнацца ў родным слове.

Зайшоўся вось. І ставіць свой канцэрт.
І не суняць. Сястра сама ўжо плача.
Не памагаюць — грымныя ў руцэ —
Бразготкі з магазіна «Свет дзіцячы».

Яна забыла песні, ад якіх
Сама над матчын голас засынала...
Прайшлі вякі. Мінуць яшчэ вякі.
Няўжо карміць груднога «барбіталам»?

Засне навек...
Жыве мая матуля.
І, дай-то бог, пры памяці яшчэ!
І спеў яе з душы ў душу цячэ,
І сон дзіця, як нас радзіма, туліць...

Пляменнік мой,
Дзіця маёй сястры!
К Айчыне-Маці не прыйдзі ў наймітэ.
Аднойчы ўстань і з ёй загавары
На мове той, якой ты быў спавіты.

**Страчаны дзень**

Незадаволены.
                    Пачну нанова
Ўчарашні дзень.
Бо не забыта мной яго выснова.
Душою не растрачана нідзе.

Ў маім жыцці мінуўся ён часова,
Без страт і дзей...
І як пражыць цяпер яго панова —
Вярнуцца з тым, з чым меўся, да людзей?

Жыцця амаль адсеяна палова —
Святло і цень...
Шматкроп'е там, дзе быць павінна слова.
І — ўсё жыццё па слова караццей.

## Штрыхі да памяці

*Светлай памяці дзеда Паулюка*

Не слёз саромеюся. Не.
Кальне знянацку злева...
Мой дзед яшчэ на той вайне.
...Расце травой ці дрэвам...

Як памяць дзеда зберагчы?
Бабуля пастарэла.
І сам гляджу я ўдалячынь
З аглядкай... па Траву і Дрэва.

**Светлай памяці**
**В. Л. Бечыка**

Пыталіся пра здароўе
За год да ўласнай смерці...
Жылі высакоснай кроўю,
Не даўшы душы замерці.

Знайшоўшы радок змястоўны
Аднойчы ў маім пісанні,
Сказалі — няўзнак, тактоўна:
«Паэзія — скрозь пытанні...»

Нікога з нас не забылі,
Сябе ў другіх забываючы.
Патайна пад дых не білі
Ні мэтраў, ні пачынаючых.

Разважным і шчырым голасам
Паэзію не заглушалі.
...Такім несусветным холадам
Жыцця паласу дажалі.

Сябры абсушылі вочы.
А іншыя — ў гаграх — душы.
Бязмежнай Вам, светлай ночы!
Заўжды Вы былі відушчы.

...Мне часта начамі сніцца,
Бы плача над Вашым прахам
ПАЭЗІЯ, як сястрыца
Над кроўным адзіным братам.

* * *

*В. С. Палтаран*

Мілая Вера Сямёнаўна,
дзякуй за шчодрасць сэрца!
Я ад яго цяпельца
ў сваіх лясах не зачах,
ўспомніўшы светлых зайчыкаў
з-за акулярных шкельцаў,
Так нажадалася зноў мне
пабыць у Вас на вачах.
Паверце, калі пісаліся
пра лес элегіі слёзныя,
Я марыў аб шчасці будучых,
я думаў аб тым, калі
Мы ўсе на зямлі адзінай
не будзем такімі рознымі,
Не розна будзем, а разам
трымаць асновы зямлі.
І покуль кружляю птахам
я між зямлёй і небам,
І ў сонца служу ў падпасках
яго надзей залатых —
Я верую: будуць людзі
дзяліцца Словам і Хлебам,
Як дзеліцца іх дыханне
на выдых і ўдых.

**Эпітафія сабе на ўсякі выпадак**

Бязважкае не ведае апоры.
Яно заўжды між небам і зямлёй.
Імкнецца ўвысь над ветрам —
у прастору,
То да травы прыліпне, як наслой.

Бязважкі колас цягнецца да сонца,
Пакуль не зломіць непагадзь сцябло,
А важкі, поўны, выспелы да донца,
Схіляе да зямлі сваё чало.

А поўны колас б'е паклон зямлі!
(Крылатыя, яны асіляць высі.)
Во тут, адкуль у свет мы прараслі,
Заўжды і свету больш ад нас карысці.

Трымай мяне, радзімая зямля!
Не дай бяскрыла узнімацца ў неба.
А здарыцца такое — ззыч пасля
Грудок Айчыны, дзе не сеюць хлеба.

**Аптымістычная элегія**

На сонечным пагосце
Высокія дубы...
Сюды прыходжу ў госці
Без слёз і без жальбы.

А проста так, падумаць
Ля нейчай там пліты,
Што ляжаш тут, пад дубам
Не сёння-заўтра ты.

Твае сапрэюць косці,
І вып'юць сок дубы...
І пехта прыйдзе ў госці
Без слёз і без жальбы.

* * *

Па свеце гойсае бясследна брат.
(Яму ці ў Клецку жыць, ці ў вечным Рыме!)
Па ім Айчына не зазнала страт.
Яго набытку ад яго не прыме.

Мой лёткі брат, я часта сумняюся,
Што нас з табой адна яднае кроў.
Балючай плачу я, святлей смяюся...
«Гадуйся сыта і жыві здароў!»

Так часта ў пісьмах я табе пішу.
І то таму, што іх чытае маці,
Жадаючы уласнаму дзіцяці,
Як памяць, зберагчы сваю душу.

А я жыву на бацькаўшчыне, брат.
Непадалёк ад Міра і Нясвіжа.
Айчына і па мне не знацьме страт.
Дасць бог — ля сэрца пахавае бліжай.

**Грыбны жарт**

Грыбнікоў у сяло
Панаперла — мора.
Дрэвам дух заняло.
Горад лесу — гора.

Ды шыбуюць назад
З паупустой пасудай.
«Гола, брат. Пуста, брат..
Суды, перасуды.

Толькі Зося з сяла —
З поўнаю карзінай.
«Дзе збірала, была?»

Зося гляне дзіўна:
«Іх на ўзгорках наўсып!
Блізка тут, бажуся.
Ненарокам на грыб
Наступіць баюся...»

* * *

Па калена трава
Вырасла ў гародзе.
Дзеду семдзесят два
Стукне ў гэтым годзе.

Дзед касой узмахне
Раз, другі і трэці...
Пастаіць — адпачне,
Пот забыўшы сцерці.

Паглядзіць на траву,
А пасля — на неба...
«Жык-жыву! Жык-жыву!»
І жыве як трэба.

* * *

Дзесяткаў восем мае дзед,
Пілуе дровы. Год ад году
Ўсю гаспадарку сам вядзе
Ад хатніх спраў да агароду.

На ноч накурыцца як след
І круціць радыё падоўгу.
Не спіць, варочаецца дзед:
На свеце зноў не слава богу...

Германец лез, і лез француз,
І аўстрыяк, і фін з японцам...
І, што ж,— заведама канфуз!
Хапіла месца ўсім пад сонцам.

І дзед выходзіць на парог,
І крэкча зболена ў знямогу —
Асколкі зноў, не дай ты бог...
А ў свеце што ж не слава богу?

**Смерць суседкі**

Ціха-мірна бабуля-суседка
Дажывала сівыя гады.
Раўнадушны — той старасці сведка
З ёю побач я жыў малады.

Мне здавалася, ведаў суседку,
Як усё, што навокал двара.
...Нечакана-негадана ўлетку
Ёй прыспела спакою пара.

...Так на могілках плакалі людзі!
Гаварылі такое, што мне —
Раптам — сціснула каменем грудзі
І мурашкі пайшлі па спіне...

Думаў розумам я: што ж такога?
Ну, прыйшла чалавечая смерць...
А душа, ў вышыні ад зямнога,
Не магла гэта ўсё зразумець.

Я глядзеў апантана праз слёзы,
Як грудок узвышаўся і рос:
Да зямлі набліжалі нябёсы,
Узнімалі зямлю да нябёс!

Варухнулася памяць нямая:
Мне чужога жыцця не стае.
Чым жыла? Хто была ты такая?
...Я ніколі не ведаў яе...

**Лёс паэта**

*Д. Бічэль-Загнетавай*

Які паэт, скажы,
Не паўтарыў бы следам:
«Вось я жыццё пражыў
І ўсе ў ім тайны зведаў.
Нячутнае — пачуў,
Нябачнае — убачыў
І, што душой адчуў,
То словамі пазначыў».

Які, скажы, паэт —
Звычайны чалавек,
Спасціг бязмежны свет
За свой кароткі век?

Чаго ж начэй не сплю?
Якому богу веру?
Чый вешчы кліч лаўлю,
Выслухваючы цемру
Ў палоне новых слоў?
Няўжо каб на світанні
Шукаць адказ ізноў
На вечныя пытанні?..

**Эпітафія абыякаваму**

«Я многа дзе быў,
Ды не доўга там жыў.

На што ні глядзеў,
Прамільгнула няўлоўна.
З жыццёвых падзей
Вельмі мала што помню.

Хоць плакаў, бывала,
Вачамі сухімі,
І вуснамі млява
Усміхаўся нямымі.

Жанчыне не здрадзіў,
Ды шчасцем не здоўжыў.
Хаціну не зладзіў
І род не прадоўжыў...

І камень над дубам —
Замшэлы, пахілы —
Адрынутым духам
Застыў ля магілы».

**Сябру-паэту**

Інфра і ультра сыплюцца гукі...
Ўсё пераплецена, перакрыжована.
Божа, якія чытацкія мукі!
Не перажытае, неберажанае...

Штучнае сена з атавай паблытаў
Дзёрзкі Пегас ці наўмысна, ці здуру.
...Сябра свайго я чытаю, нібыта
Перакладную літаратуру.

* * *

Яшчэ вятры не прадзьмулі
Яснасць нашага Заўтра.
Чытае Рыгор Барадулін
Вершы вясковага аўтара.

Закіды на геніяльнасць...
На таленты раздзяленне...
Была б чалавекаадданасць.
Было б чалавекасумленне.

Ці многія так гарэлі?
Ці многія так свяцілі?
Дзякуй, што адагрэлі!
Дзякуй, што адпусцілі,

Нібыта звярка малога,
Скалеўшага на марозе.
І боль яго, і трывога
На іншай цяпер дарозе.

Завые ў лясной гушчэчы
Яшчэ не адзін падранак.
У цёплы дом чалавечы
Яму пакажу напрамак.

**Памяці Мікалая Рубцова**

Ўсё вызнанае мной,
Лягло на сэрца грузам...
Ды летам і зімой
Пяе, не стогне Муза.

Аб прывідным дабры
Народа і Айчыны...
Прызваныя тварыць —
Суровыя мужчыны.

Пра іх бязладны лес,
Бяссонны ношук слова
Раскажа вам без слёз
Сучаснік выпадкова.

А праўда іх жыцця,
Яна, як дзень, світае
У вобразе быцця
Таго, хто іх чытае.

* * *

*Яну Скрыгану*

Майстрам быць — не шукаць палёгку.
Шлях жыццёвы — у даль здалёку...
Кайстру ўскінуць — заўважыць свет.
Свет узважыць да ўсіх прыкмет.

Быць падзей і ідэй прадвеснікам.
Роўным богу быць, не намеснікам.
Пакланяцца Айчыне долу.
Блізкім быць да людскога болю.
Не рамеснікам быць — равеснікам
Часу,
выпаўшага на долю.

* * *

*У. Някляеву*

Якая няясная ноч!
І чорныя дрэвы-манахі,
І шум пралятаючай птахі —
Ў абуджанай цемры наўзбоч —
Узновяць таемныя страхі
І выстудзяць вусцішнасць кроз...

Ў няведанне йдзеш, як да плахі,
І — цемру праходзіш наскрозь.

* * *

*Р. С.*

Падумаць даўно ўжо, даўно мне пара,
Як з роднага выйшаў святога двара.
Не скрыпнуў варотамі —
ўскрыкнуў душой:
«Адкуль ты выходзіш?
Куды ж ты пайшоў?

У свет гэты белы — бясконцы прасцяг?!
Яшчэ не знаходзілі шчасця ў гасцях».
Вярнуцца захочаш і — вернется ты.
Адчынена брама і — дом твой пусты...

**Памяці сябра В. Ціхановіча**

Валодзькаў трактар аддалі другому.
Яму ён не патрэбны — ён адсеяўся...
Набіў, як кажуць, ад жыцця аскому:
Адсумаваў па ўсім і адвяселіўся...

Цяпер яго душа, напэўна, там,
Ля самай светлай і высокай зоркі.
І я бясслёзна вам не перадам
Апошняй з ім бязрадаснай гаворкі...

Цяпер я не прадам і не куплю
Ні большага жыцця, ні большай страты.
Як скульптар, вобраз я яго ляплю.
Як вылепіць прытомленых аратых?!

А ці надоўга я пераражыву
Яго, а лепш сказаць, сябе самога?
Пустым не затлумляю галаву,
Здымаю шапку ля яго парога...

Смяецца мне ягонае дзіцця.
Бы птушка, нешта веснае шчабеча...
Яка я вечнасць у яго жыцця!
Як непазбежна блізіцца сустрэча...

* * *

*Любе А-вай*

Я не збярог.
                    І ты не збераглася.
І белы свет праявы не збярог
Дзён учарашніх.
                    Ты не адракласся,
Хоць і ступіла ўпотай за парог

Таго, што разам называлі раем,
Дзе нас гарачым пеклам апякло...
Надзея ёсць, што там, за небакраем,
За нашай цемрай высіцца святло.

І не шапчы мне словы апраўдання —
Халодных слоў на вуснах не сагрэць,
Як гэты верш — азы вершаскладання —
Не здольны сам агнём маім гарэць...

**Сустрэча**

Як было гэта ўсё даўно?!
Як даўно гэта ўсё было?!
Што вадой навекі сплыло,
Што віной гарчыць, як віно...

І нічога ўжо не вярнуць,
Бы на ўсё накладзена вета.
...Светла помню жанчыну адну
Пасярод спякотнага лета...

А нядаўна сустрэў яе
Па дарозе з адной сталіцы.
Не пазнала, ці не пазнае,
Ці былое ўспомніць баіцца.

Павітаўся. Падсеў. Спытаў:
«Як жыве цяпер Ваша Светласць?»
«Дом... Работа...
І столькі спраў...—
Адказала яна нявеtла.—
Ну, а вы — ходзяць чуткі — паэт?!»
«Так,— кажу,— ходзяць нейкія чуткі.
Ды такі ўжо,— смяюся,— наш свет:
Зарыфмуеш два словы — і Пушкін».

«Вось,— гаворыць,— маё сяло.
Мужнін дом, вунь, жаўтавы злева.
Гразь... А летам душна было...
Ды ўжо восень амаль датлела.

І не доўга чакаць зімы —
Ноччу холадам цягне з неба.
Нечакана сустрэліся мы —
Развітацца як людзям трэба...»

Выйшла там, на пустой шашы,
Так як боль выходзіць з душы.

Ці даўно гэта ўсё было?

Лета ў восень навек сышло.

Толькі памяць аб светлым леце
З намі блудзіць па белым свеце.

**Дзедаўскі перапеў**

Гарыць чырвоная сукенка
Сярод зялёнае травы...
— Прашу на танец вас, паненка.
Няўжо адмовіцеся вы?

Прыціхла стоена сукенка
У росным холадзе травы...
— Прашу дахаты вас, паненка.
Адна заблудзіцеся вы.

Патухла стылая сукенка.
І не прымяць сырой травы...
— Аб чым задумная, паненка?
— Аб тым не ведаеце вы.

Гарыць, як грэшніца, сукенка.
Світальна ззяюць паплавы...
— Аб чым вы плачаце, паненка?
— Аб гэтым ведаеце вы...

* * *

*Любові А-вай*

Забыць цябе.
                    І я цябе забуду.
І голас твой, і цела кожны зрух.
Наш дзіўны час, як тонкую пасуду,
Мы выпусцім з табой, напэўна, з рук.

Забыць цябе.
                    І я цябе забуду.
Але пакуль ты не сышла з вачэй,
Як той індус, што моліцца на Буду,
Малюся на цябе сярод начэй.

Забыць цябе.
                    Як забываюць бога...
Як холад, што праступіць на ілбе,
І права дасць забыць сябе самога,
І вечнасць дасць не помніць пра цябе...

* * *

Мне помніцца агністы лістабой...
Каб так палаць, то толькі раз адзіны!
Нас звёў тады няскладны лёс з табой.
Навек — гадалі. Выйшла — на хвіліны.

Якраз была адлётная пара —
Выпрабаванне на любоў і вернасць.
Пачуцці, як і словы з-пад пяра,
На жаль, назад ніколі ўжо не вернеш.

Калі не зняць з душы высокі боль —
Душа датлее, як лясное лісце...
Мне помніцца агністы лістабой.
З таго пажару не знаходжу выйсця.

І, значыцца, забыць прыйшла пара
Ўсё тое, што, сагрэўшы, адгарэла...
Штодня праходзіць ля твайго двара —
Глядзець жахліва па бязлістасць дрэва.

**Амаль сур'ёзны верш**

Жанчына без тайны,
Што лес без лісця,
Без сонца — світанне,
Без ласкі — дзіця.

Мужчына без тайны?
Што тут гаварыць:
Мужчына звычайным
Павінен і быць.

Каб мог ён аднойчы,
Калі набаліць,
Сваю сярод ночы
Жар-птушку злавіць.

**Метамарфозы кахання**

Я прыеду. Ледзь восень міне.
Там цябе і ў паміне не будзе.
Скажуць мне незнаёмыя людзі:
Ты па свеце шукаеш мяне.

Ты прыедзеш сама па цяпле.
І мяне не застанеш таксама.
Скажа з весніц гаротная мама:
Ён па свеце шукае цябе...

Зноў вярнуся, як цень, да сяла.
Зноў суседка падасць мне напіцца.
Скажа: «Пі, ледзяная вадзіца.
Я тваю напрадвесні піла...»

**Любові цень**

Даўным-даўно прапала з чыстых дзён
Ты ўся як ёсць. І толькі цень застаўся.
Там, дзе і я, заўсёды ён туляўся,
І стаў маім уласным ценем ён.

Я на яго маліўся ў чысты дзень.
І ў ясны дзень, а днём глухім і цёмным
Ён прападаў і недзе жыў бяздомным
Пустэльнікам, тваёй любові цень...

Век адзіноты даў сябе спазнаць...
Ноч без канца. Так доўга не світае...
І ўрэшце цень табе я твой вяртаю,
Калі і свой не ў сілах утрымаць.

**Элегія**

На стале завялі кветкі,
Што сарваў я ўчора ў лесе,
Пры дарозе...
Сініх дзве.
Быў такі настрой шляхецкі,
Што ў душу вужакай лезе
І гняздоўе страсці ўе...

Сёння вось яны завялі.
І ў душы патухлі страсці.
І прад вечнасцю на міг
Ўспамінаю — як Вас звалі,
Для каго пачуцці траціў? —
Сам, жывы, над прахам іх.

* * *

...Схілюся над табой
З любоўю на дасвецці...
Свет не ў табе адной,
Л ты — ва ўсім на свеце.

Па кропельках цябе
Знаходжу ў кожнай з'яве:
У радасці, жальбе,
Гульбе і добрай справе...

...Свет не ў табе адной...
Ты мне вачэй не засціш,
Хоць і жыву табой,
Л ты — адкрыта насцеж...

* * *

*Л. Х.*

Такі мне выпаў лес:
Не умею лгаць прыгожа,
Саромеюся слёз,
Жыву не надта гожа...

Хто ў свеце з нас прарок?
Яно заўжды ў сакрэце.
Ды свет мне не агорк
І ўсё жывое ў свеце.

Люблю набожны люд
Вясковае радзімы.
Бог той — каму я люб,
І той — хто мной любімы.

А ўсё, што для душы,
Спрадвеку неабходна,
Як нова не скажы,
Заўжды неверагодна.

* * *

Плача жанчына перада мной.
(Я для яе анічога не значу.)
Перад жанчынай, магчыма, чужой
Сам я аднойчы міжволі заплачу.

...Выцерла слёзы... Смяецца ужо...
(Я ж для яе анічога не значу!)
Бог літасцівы, і сам я — няўжо? —
Буду смяяцца, забыўшы, што плачу...

* * *

Усё ў жыцці так хутка,
Як вецер,
                    што крыло
Тваёй падыме хусткі,
І знікнеш, нібы птушка,
Якой як не было...

І толькі ў паднябессі
З душы сваёй высноў
Адчуеш тую песню,—
Без музыкі і слоў,—
Якую будзеш помніць,
Як сонца
                    помняць промні
Ў зялёных лісцях кроны
Абуджаных лясоў...

* * *

Незнаёмыя.
                    Нечаканыя.
Разглядзелі сябе без слёз.
Нешчаслівыя.
                    Некаханыя.
Лёс прыйшоўся якраз на лёс.

Апусцелая.
                    Звечарэлая.
У якую імкнешся даль?
Несагрэтая.
                    Адбалелая.
Нічыя.
                    Не мая, на жаль.

Мара-блудніца.
                    Беспрытульніца.
Дань аддаў я былой жальбе...
Забываю цябе на вуліцы,
Але добра я помню вуліцу,
Ўсю — пустынную — без цябе.

**Люстэркі матчыных вачэй**

Я ў юнацтве ўглядваўся ў люстэркі:
Бог, прарок — не больш таго, не менш.
За душой не маючы капейкі,
Я ў душы вызвоньваў грошны верш.

І глядзеўся ў вочы я каханай:
Прынц, ды толькі, што там ні кажы...
Па сяле блудзіў як апантаны
З пачуццём узнёсласці душы.

А нядаўна ў вочы роднай маці —
Слёзныя люстэркі — зазірнуў,
І убачыў воблік там дзіцяці —
Сам сябе і ўсю сваю віну
Перад ёй, прад грэшным мілым людам,
Прад каханай, што сышла даўно...

Я ў люстэркі больш глядзець не буду.
Знаю: ёсць праўдзівае адно —
Вочы маці — вечнасці акно...

* * *

...А мама мая маладой не была.
Узрост мацярынства даўгі, як кудзеля...
Услед за дзяцінствам — вайна прагула.
Услед за вайною — раджала, мадзела...

Жыву я пад сонцам яе дабраты,
За трыццаць гадоў — маладосць не спатолю.
Якраз, можа, маміны тыя гады,
Калі яна быць не змагла маладою.

У мамы спрадвеку ручная душа.
І як адухоўлены рукі у мамы!
Да іх нам з жыццёвых вандровак спяшаць,
Пакуль не паклічуць жальбой тэлеграмы.

Ды вунь яна, ў градах стаіць з драпчаком.
Пыр'ё аддзірае, нібыта каросту
З мяне, калі быў я зусім хлапчуком,
А мама была... мацярынскага ўзросту...

* * *

…А маці носіць боль душы
Маёй,
Як быццам мала болесці
Сваей…

Такі характар нашых мацярок.
А мы даём зарок, нібы знарок,
І — новы робім небяспечны крок.

* * *

Першая песня — маці.
Другая песня — каханай.
Трэцяя песня — дзіцяці.
Чацвёртую — сам шукаю.

І першы мой плач — па маці.
І плач апошні — па маці...

**Верш з пастскрыптумам**

«З ёй цяжка размінуцца
І ўслед не азірнуцца.
— Адкуль ідзеш ты, Поля?
— Адкуль? Не бачыш — з поля.
— Што ж не спяшаеш, Поля?
Што сумна так ідзеш?
— Ва ўдоў такая доля.
Куды спяшаць мне з поля?
Складзі пра гэта верш.

Сустрэў пасля абеду
Я тую зноў кабету.
— Куды спяшаеш, Поля?
Што светла так ідзеш?
— Я — да людзей, на поле.
Куды спяшаць мне болей?
Складзі пра Полю верш».
P. S. І верш надрукавалі
Вось так, як вы чыталі.
Пісаў я без накладак.
Адно імя змяніў
На ўсякі там выпадак,
А рыфму ўзбагаціў.

...Зайшла з газетай з поля
У двор да нас і кліча...
— Дык як мяне ўсё ж зваць?
Смяюцца... Пішаш: Поля...
Спрадвеку ж звалі Воляй.
І што ў пісак за звычай —
Не так, як ёсць, пісаць?!

**Вытокі будучай паэмы**

Люблю райцэнтр —
Ні горад і ні вёска...
Слых б'е акцэнт,
Нібыта брук — павозка.

Ля бочкі «квас»
Заўсёды нехта родны.
— Гарачы ў вёсцы час?
— Даў бог, стаіць пагодны...

— Што значыць, будзе хлеб?
— Абы было ўсё ціха...
— Яно ў зацішку лепш.
— За век хапіла ліха...

— Так, ты пагнуў спіну.
Другіх нейк абмінула...
— Няўжо яшчэ адну
Вайну пачнуць агулам?

— Капае яму Сэм.
— А што ж — другія дрыхнуць?
— Ды свет не глух і нем —
Разумныя засыплюць...

— Ён думае: вайна —
Кіно на Галівудзе...
— Народы трэ з'яднаць.
— Няскора гэта будзе.

— Калі пачнуць, то ўжо
Апошнюю на сушы...
— Не ржавее ружжо...
— Не ржавелі б вось душы.

— Я — што? Сваё аджыў.
І дзеці маюць права...
— Вось іх і беражы —
Працуй, мацуй дзяржаву.

А ты карову збыў —
Вунь, з сумкі масла лезе.
У горадзе купіў?
— А што трымаць абы?
Які пастух я ў лесе?

— А як паш там Іван?
Ужо мо сушыць чарку?
— Адпіў. Адваяваў.
Жыве па-гаспадарску.

— Яно ж... не роўны свет.
Чаго дзе ні бывае.
А як жа сельсавет?
— Пакуль што давярае.

Хоць мае і правы
На розныя прынукі.
Ды людзі ж — не грыбы,
Паўсюль патрэбны рукі.

— А я б і сам — да вас.
У нас тут — труха-мнуха.
Ды жонка пра калгас
Не хоча нават слухаць...

— Хе-хе... Яно-то так.
Усе на словах рады
Да нас — за чацвяртак,
А ты — за тры — ў брыгаду!

— Ўсіх, дзядзька, не рауняй
Ты на капыл адзіны.
Я — усё ж табе радня.
Як кажаш сам: радзімы...

Лепш пі халодны квас
І кінь свае малебны...
— А — квас-то — ён ад нас,
Яно і піша: «хлебны».

Яшчэ там колькі слоў.
Пасля працягнуць рукі.
— Ну, дзядзька,— будзь здароў!
Заедзь калі з дакукі.

— З дакукі — гэта там,
Мяркую, на каляды,
Хоць я ў той час і сам
Гасцям, папраўдзе ж, рады...

І — кожны па сваёй —
Разыдуцца дарозе.
Той — спяшнаю хадой,
А дзядзька — ў мяккім возе.

Няўзнак яднае іх
Чуццё адной Радзімы...
І ўсе з дарог сваіх
Звярнулі ў шлях адзіны.

**Аб вершапісанні**

Гавораць, што умею я вершы складаць.
(Цяпер гэта многія ўмеюць.)
А вось, як даводзіцца мне іх пісаць,
Напэўна, не ўсе разумеюць.

Што нават вось гэтыя колькі радкоў,
Заклаўшы на зашчапку дзверы,
Пісаў я не смелай вучнёўскай рукой
На зжоўклых абрыўках паперы.

Што я не магу з галавы выдумляць
Ні слова,
што мне дыктавалі:
Прырода, жанчына, сябры, немаўля...
Хоць самі аб гэтым не зналі.

А ў тым, што пад вершам паставіў імя
Сваё —
плагіята не бачу,
Бо першым той верш запісаў усё ж я
І дату дыктоўкі пазначыў:
9.IX.85 г.

**Паэту**

Паэт навінен быць празорцам.
Іначай — што ён за паэт?!
Паэт павінен без пазёрства
Сваё сказаць пра белы свет

І свет душы сваёй, якому
Ён добра ведае свой кошт,
І не схлусіць ні ў чым, нікому,
І не прадаць сябе за грош.

Жыццё не мерaць доўгім векам,
А проста так яго ўяўляць,
Што ў сілах ён, як з чалавекам,
З нябеснай зоркай размаўляць.

Бо, пэўна, той дастойны звання
ПАЭТ,
хто здолее якраз
Нам даць на вечныя пытанні —
ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ -
свой адказ.

**Птушыны лёс**

Ледзь сок пасочыщца з бяроз
І - я чакаю птушак першых.
Нас параднiў адзіны лёс,
Як лейтматыў у хоры пеучым.

І роднасць волі, і крыло,
Што прыцягае да Айчыны,
І, як сіло, для нас сяло,
Дзе нас звяло у час адзіны...

Не ўсе вяртаюцца. Не ўсе.
Як вырак, губіць птушак вырай.
Ды чым іх меней на страсе,
Тым песні іх званчэй і шчырай.

* * *

*Мацею Бурачку*

Вось тут — у гэтым наваколлі,
Сярод знаёмых мне людзей —
Я словы выпусціў на волю,
І дух мой з імі адляцеў...

Тугі вясновае — на ўзлессі...
І потнай восені — ў палях...
Усе, мной складзеныя песні,—
Жыцця заведамы працяг.

Юнак маёй вясковай долі,
Як я, забыўшы на гады,
У гэтым знойдзе наваколлі
Той мовы песеннай сляды.

Збярэ ён тут за словам слова,
Нібыта зерне ў недарод...
Бо аніякай іншай мовай
Не зможа выказаць НАРОД.

**Вольная ода паэзіі**

Любіце паэзію
Ціха, наўзрыд —
Мару-гарэзію,
Думкі рытм.

Душой адчуйце
Гістарычны змест,
У нашых пачуццяў
Продкаў замес:
Дабра, нянавісці,
Любові, вольніцы...
З далёкай даўнасці
Пра гэта помніце!

Як помніў Сімяон Полацкі,
Бунтарны Янка Купала...
Глядзіце, каб новыя полаўцы
Душу, як стэп, не стапталі!

Паэзія — гэта цяжар
Не толькі ўласнай душы.
Паэзія — лёс і дар
Распятым быць на крыжы
У бязмежным полі
Народнай долі...

У наш высакосны час
Яе паўсюль беражыце.
Хай плача ў душы у вас,
Як перапёлка ў жыце...

**Эпітафія верлібру**

Не магу я пісаць верлібрам.
Задыхаюся ад арытміі радка.
Люблю жыццё ў зададзеным рытме,
Дзе ўсё зрыфмавана само па сабе.

Сабраўся ў дарогу —
Бацькам і парогу —
Паклон.
А вернасць
З сабою вернеш.
Кал і скасіў,
То і сена звазіў.
Ластаўка нізка —
Непагадзь блізка.
Дзіцё смяецца —
Шчасліва жывецца.
П'янь ля плота —
Дрэнь работа.
Змок ад поту —
Жджы ўмалоту.
Песня спета —
Ёсць паэты!

Я ад верлібра,
як бацька ад арытміі сэрца,—
Задыхаюся.
Вось даб'ю хіба гэты радок наўскос,
Як лайдак па куп'і пракос...
Не магу несумленна.
Каюся.

**Мова**

У гадах, якіх не дагукацца,
На роднай мове размаўляць
Было прывольней і, прызнацца,
Не трэ было сябе хаваць,

Што беларус, што родам з вёскі,
Што ў старане сваей не госць,
Што ў белым свеце адгалоскі
Тваёй Айчыны роднай ёсць.

Што ёсць Купала, ёсць Дубоўка,
Што ёсць Гарэцкі і Чарот,
І што равесніца-сяброўка
Народнай песняй кругліць рот...

Не раз «деревнею» і «лаптем»
Смяшылі ў душных гарадах...
За ўсё, за ўсё яшчэ заплацім
Душой, з якою не ў ладах.

А сёння вось і ў роднай вёсцы
З радзімай мовай нелады.
І ёй ужо не маю моцы
Я дагукацца маладых.

Загавару.
                    Пайду на споведзь.
І ўслед пачую дзіўны зык:
«Ишь, образованный какой ведь!
Как изучил родной язык!»

Не ад былой баліць пасмешкі —
Ад гэтай дзікай пахвалы.
Ў адну дарогу звесці сцежкі
Ў вялікі свет — скрозь свет малы!

О, мова!
                    Усе, як магеланы,
К табе мы вернемся наупрост,

Каб ты знайсці дапамагла нам
І ДОМ,
і МАЦІ,
і ПАГОСТ…

**Вясновыя метамарфозы**

...А ранак, быццам бы падранак,
Туманам выслязіў траву,
І промнем сонца ўспоўз на ганак,
Нябёс адкрыўшы сіняву.

...І замясіла маці хлеб,
Прыбраўшы даўкі, даўні, з крамы...
Былое помніцца нам лепш,
І не харомы славім — храмы
Душы,
дзе чысціцца жыццё.

І ўжо з акон двайныя рамы,
Як з вока шорхлае асцё,
Вымае бацька.
І на плямы
Плюе, сцірае брудны след...
І не прыкрыўшы ўнуку попу —
Нібыта Пётр акно ў Еўропу —
Акно раскрыльвае ў сусвет...

Чуваць птушынае ў садах,
І вулей школьнай перамены...
А ты пудзіш: «Ніякай змены...»
Зачаты ў злобе і ў слязах.

Душу сваю машною сцяў,
Зашкліўся шыбамі двайнымі.
Твой храм пусты.
Дарма званілі
Ў яго званы вятры жыцця.

Мне б — адвярнуцца б і забыць,
Што ты ганебна там канаеш,
Але душа наскрозь баліць,
Нібы падказвае: чанаеш...

Што бескарысны я прыйду
З дабром і гнеўнаю кувалдай,

Патрушчу ўшчэнт тваю бяду —
Душу ўратую…
                    Чыстай праўдай
Цябе пад сонцам ахрышчу.
Тварыць людское навучу…

Мы новы храм збудуем — эх-х!!!
Удвух адзін замолім грэх,
Прад юнай яснасцю вясны,
Дзе явы зблытаны і сны.

**Зіма Айчыны**

Зямля стужала.
Ясніцца з нябёс.
Ў лясах, бы ў парках,
і прастор, і ціша...
Пара мужання,
Выстывання слез...
Мароз наш лёс на шкле акон распіша.

Высокай думы
Яснае крыло
Адлётнай птушкай вынесла з Айчыны.
Як стацца так, радзімыя, магло —
Што познім крыкам
Аб былым крычым мы?!

Халодны снег
Пасыплецца ад зор.
Зямля-нявеста ў вэлюме прачнецца.
Мужык-жаніх
Праспіць той час, як тхор,
І лаянкай з пахмелля абзавецца...

Не сёння-заўтра
Будзе судны дзень...
Няхай мужнеюць цельпукі-мужчыны!
На схіле сонца.
Наш даўжэе цень.
Ды не даўжэй ён за абсяг Айчыны.

**Край...**

Бацька купіў мне веласіпед.
Гадоў мне было з дзесятак.
Клінам на ім сыходзіўся свет,
І бацька наскроб дзесятак.

Новы! Чырвоны! Веласіпед!
Срэбна-бліскучыя спіцы!
«Можна заехаць на самы крайсвет,
Калі са шляху не збіцца...

Выб'ешся з сілы і тут ён — край...
Дзівуйся дзіву — раскажаш».
З горак, вучылі, не налягай,
А то пад гарою зляжаш.

Шпарка ганяў я веласіпед.
Нагамі прырос к педалям.
Падаў, знямоглы:
                                    гэта крайсвет?!
За вёскай адразу ці далей?

Плакаў начамі. Смылелі бакі.
А мроі грызл і адчайней:
Ну, чалавекі! Ну, дзівакі!
Край свету — ён незвычайней!..

Сёння я слёзна смяюся з сябе.
Не раз абышоў бы планету.
Ці памудрэў я, ці паслабеў?
Шкада — не пабачыў край свету...

Спеюць пачуцці мае па ўпісоп
З думкай пра мару-абразу...
Сніцца начамі дзівосны мне сон:
...Край свету!
                        За вёскай адразу...

Крычма крычу ў выпадковай кватэры:
«Край свету!!!»

Край болю...
Край лёсу...
Край веры...

**А заўтра...**

Шапне чынуша, сам як ёсць халоп:
«На трон — сягоння!
Заутра— хоць патоп
Гурман згугніць, глытаючы ўзахлёб:
«Зжую, што ёсць.
А заутра — хоць патоп
Пустэльнік буркне, не паморшчыць лоб:
«Дажыць бы дзень...
А заўтра — хоць патоп,
Не скажа цесля з-пад смалістых строп:
«Збудую дом.
А заутра — хоць патоп...»
Не скажа сейбіт, сонечны як сноп:
«Засею поле.
Заутра — хоць патоп...»
Не скажа жонка з роду пенелоп:
«Без мук радзіць бы...
Заутра — хоць патоп.

— Каму ў няшчасці —божа! — давярацъ?
— Падобных Ною трэба ратаваць.

* * *

Пара пладаносу і роздуму
Прыходзіць так нечакана.
Свои лёс апісаць бы бясконцай
і нуднай прозаю,
Як гэты дождж несціханы...

Душу сваю выстудзіць хочацца.
Напоўніць марозным і чыстым.
Цяжэй і цяжэй па зямлі
з кожным днём мне крочыцца.

Бліжэй і бліжэй мая прыстань.
Пара пладаносу і роздуму
Свой вечны круг не завершыць.
І лес апісаць бы бясконцай
і нуднай прозаю,
Ды некаму ж трэба пісаць
Мілагучныя вершы.

**Ёй**

Жыву жанчынай безгалосай.
Адно паветра з ёю п'ю.
Яна маім цяжарна лёсам.
Яе жыццё — сваім — люблю.

І думкі ўсе яе начныя
Здзімаю ўранку з вуснаў я.
І плоць ад плоці не спачыне
Жаданнем: знаць адно імя.

Таму, як боскасць і святыню,
Аберагаю дух нутра
Ў хаосе без мяжы, ў пустыні,
Пустэльнік ад яе рабра.

**Проза кругазвароту дзен**

Бразнуўшы ў студні вядром,
Разбудзіць нас маці.
Брат прачнецца: «Доброе утро!»
Я прачнуся: «Дзень добры!»
Маці ведае мову кожнага сына.

Днём мы з братам пілуем дровы.
Ён — у джынсах фірмы «Мантана».
Я —ў портках фабрыкі «Камінтэрн».
Толькі б ладзілася работа
І не выстыў бацькоўскі дом.

Выціраючы пот з ілбоў,
Мы закурым.
Ён — з пустынным вярблюдам «Кэмэл».
Я — свае народныя: «Прыму».
Толькі б думалася нам мудра.

Павячэраўшы, мы спрачаемся
Пра футбол і музычныя стылі...
Ён — пра фан...
а я — пра рок...
Божа, не пазбаў нас радасцей
і захапленняў!

Спім удвух пад адзіным дахам,
Крытым шэрым крычаўскім
шыферам —
Сняцца нам бяспечныя сны...
Пакуль не разбудзіць маці
СОНЦА,
Бразнуўшы ў студні вядром.

**...Вера...**

Чарвячны рух чаргі —
За плоцкім і духоўным...
Крамольны сэнс тугі
На ўсім, як знак ахоўны...

Як доўга ён паўзе,
Чарвяк бясконцай веры...
І я стаю ў чарзе:
Няўжо зачыняць дзверы,
І той чарвяк згрызе
Апошні стос паперы
Са словам і той веры,
Я кой збалелі ўсе?

* * *

Я ў горадзе — гаротны, як ізгой.
Я камянею сам на тратуарах,
Не чуючы жывога пад нагой,
Імгненнае чытаючы на тварах.

Траецкае — не Дух былых вякоў.
Прадметнае прадмесце не жылое.
І толькі не хапае там вянкоў,
Што ўскласці не паспелі на былое.

О, горад, дзе выток тваёй душы?!
Твой гул пачуць з якой Чырвонай Прэсні?!
Ў кватэры сябра — ў клетцы — два чыжы,
Ён — трэці...
Надта штучныя іх песні.

Я — вольны чыж.
Я — на сваім суку.
На дрэве тым, дзе кожны ліст — загадка.
Што ж, век мой — птушкалоў,
за мной цікуй!
Апошні птах — перад тваёю насткай.

**Роздум ля помніка Пушкіну**

На плошчы Пушкіна — гурты,
Нібы ў царкве каля прастолу.
Тут цесна так, што пустаты
Амаль няма, як і прастору...

Адзіны ён — з усіх бакоў —
Святло і цень на ўсё з'яўляе,
Бы сутнае былых вякоў
Тут з будучыняй размаўляе.

Яго жывыя чытачы
Яшчэ ў алеях цеплящь месца.
Тут, сярод цёмнае начы,
Эпохі зверыўшы са зместам

Яго трагедый, нашых драм...
(І — бог ты мой — як супадае!)
Паэзія — Прарочы храм.
Жыцця каштуе служба там,
Дзе слова духам абрастае.

І ты, Расія, ўслед яму
Глядзіш...
І я, славян нашчадак,
Не разумею сам: чаму
У ім шукаю свой пачатак
І свой працяг у ім?
Каму?..

* * *

Даўно прыцярпелася слова
Да слова,
              як дзень да начы.
Змяшалася зерне з паловай,
Хоць смейся, хоць крыкам крычы.

Прырода амаль без загадак.
Жанчына — ўжо без таямніц.
І нам дастаткова загадаў,
І — устанем!
                        І — падаем ніц...

З пагардай, амаль безбаязна
На сонца святое глядзім,
Пра плямы на ім падрабязна
З любой падваротні лухцім.

І толькі адчуўшы здалёку,
Што блізіцца скон спакваля,
Убачым: як сонца вы-со-ка!
Як цёмна глыбее зямля...

І слова пачуецца слову,
І ночы адкрыюцца дням,
І вецер адвее палову
Ад зерня,
                        што сеяць не нам.

**Кроўнае**

Ужо ні радасці няма, ні спадзявання.
Паперы. Тлум. Пустэльных слоў пясок...
Душа былым спатолена дазвання.
Надзей бруйлівы перасох выток.

Высокім сонцам адстаялі дні:
У сляпых вачах — праменны іх адбітак...
Глыбока ў недрах сохнуць карані,
Бязмежнай веры вызнаўшы набытак.

Прастуй у свет, айчыннае дзіця!
На Бацькаўшчыне рук няма радзімых...
Крычы і кліч забытых і адзіных,
Будзі глухіх і сонных з забыцця!

На могілках расце — вунь, бачыш? — дуб.
Гадоў яму зязюлі ўжо не злічаць.
Шумлівай кронай запаветных дум
Жывых да мёртвых ён адчайна кліча.

...Цалую продка надмагільны крыж,
І спадчынная чуецца замова:
«Жыві з людзьмі. І цвёрда стой паміж
Назоўніка жыцця і дзеяслова».

* * *

Паэзія, ці станеш ты працягам
Жыцця майго?
                    Я — вечны твой слуга.
Душу маю мелодыя працяла,
Дзе паўнагучны радасць і туга...

Не збыць да скону рабскую работу:
Свайго народа выслухаць душу.
І так пісаць, нібыта пісьмы
                                        з фронту —
З той бояззю — што больш не напішу.

**Змест**

Да чытача

1981-1983
*** Трава вось-вось пажоўкне
*** Ты — памаўчы. Хачу я зразумець..
*** Каго святлом я азарыў?
*** Прыходзіць дзень на змену цёмнай
*** Мне часта сумна ад таго
*** Мне гарадская спешка не з рукі…
*** Нам цяпер, на самым зрэзе веку…
*** Вось-вось жывая ўзнімецца трава..
*** Начное свяціла…
*** Меней думаю пра зоры…
Кавалям шчасця
Песнярам Айчыны
Восеньснае бяссонне
*** Памерці? Ўсе памром…
*** Сонца ўсходзіць і заходзіць…
*** Дзяцінства пачынаецца з пытання.
Апраўдальны верш
*** Смуткую. А па чым?
*** Дзе рамантыкі ездзілі
*** Зіму яшчэ адзімую
*** За трыццаць мне. Жыццё маё ўставала
Гімн стыхіі
*** Адтаяла душа…
*** Не схавацца ад жыцця…
*** Зязюлі мне гадоў не шкадавалі
*** Маё сумленне — сонца…
*** Ніколі на Поўдні не быў.
Пытанні
*** Я здаравею розумам…
*** Начная цёмная сцяна…
*** Я дзіўны чалавек…
Паштар і сумка
*** Разбагацець душой…
*** І я і ты ў адзіны час зліёмся
*** Здаваўся боль бясконцым…
*** Ах, якая была гара.
Памяці сталяра А. Мікірэя
*** Крамянай восеньскай парою
*** О, век дакладнай лічбы
Душа

Дарога дадому
Падпасак
*** Першы дождж маладой вясны
*** Не так далека да вясны
Цётка Маня
*** Сарваўся з прывязі сабака
*** Сяджу у кватэры паэтэсы
Дзед
*** Люблю старых людзей.
*** Стынь такая стаіць з паўдня
*** Сыдуць блізкія людзі навечна
*** Гарачы мой, віхурны, шумны век!
Яшчэ раз пра коней
*** Жыве Алімпа адзінока
*** Пусцее дом. Выносяцца на злом
*** Адходзяць старажылы
*** Дзеду чысцім калодзеж
*** Прыходзіць дзед-сусед і мне
Дзіцячы ўспамін
*** Рукі спачыну не ведалі ў цёткі
Начны матацыкліст
Прысуд
Студзеньскі базар у Слуцку
*** З календара амаль усе
Канец лютага
Красавік
Якая восень залаціцца
Удовы
*** — Добры дзень на доўгі век!
Дыялог жыцця
Аўтарам першых паэтычных кніг
*** За буднямі свят не разгледзіш
*** Тая ноч намі ўкрадзена ў вечнасці
Юначае
*** Каханая! Аплакана душа
*** Яшчэ пра нас з табой паэты
*** Паэт павінен быць зямным
*** Святлей штодня вясновы свет
Пастскрыптум
Ганцы любові
*** Не сцялі мне мяккую пасцелю
*** ...Няма Веранікі
Сумны жарт
*** На уфімскім начным вакзале
*** Забываюцца нягоды.

*** Я з Вамі развітаўся
*** Пакуль табе здзіўляюся
*** Няўжо й калісьці кахаў без спачыну
*** Дзяўчынка... Суцяшэнне... Матылёк
*** Пакуль мы шукалі адзін аднаго
*** На грудку, на бур'яну
*** Я развітаўся з часам

1984—1986
*** Паспавядацца б... Толькі — перад кім?
*** Я вымаўчаў гэтыя вершы
Воблакі Айчыны
Ненапісаны верш пра зарапад
*** Як варожым слоўным хмелем!
*** Бель — ад зямлі і да нябёс
*** Свой белы верш пра чорную бяду
Элегія высахламу дрэву
Пагляд з-пад рукі
*** Як прагнуў я кампаній
*** Набеглі неўпрыкмет мае гады
Вераб'іная зона
Сучасны сон
*** Я — дзіцём — крыклівым быў і шумным
*** Я сейбітам паэта уяўляю
Даўгі
*** Здабыў сваю волю
Паводле народнага
*** Ёсць два няведанні, ў якіх вучуся
*** Навошта яго над зямлёй узнялі
Ода рукам *
*** Сумленне — гэта фільтр
*** Што геніям маліцца, бог ты мой!
Роздум аб шчасці
*** Дарэмная мара... Пакуль ты жывы
*** І як бы ты ні спяшаўся
*** У мяне чалавечныя сны
Званы трывогі
*** Нітку памяці абарвеш
*** Шукаю крыніцу чыстую
*** Свой вымяраю век няспешным ходам пешым
*** Вышэе сонца. Пеняцца сады
*** Пачатак мая. Затравела
Рыще Андронавай
Маскоўскі маёвы эскіз з паэтам Шніпам
Лістапад

*** І ў маладой бярозы і ў старой
*** Глыбокая восень стаіць у
Восеньскі матыў
*** Я увайшоў у гэты лес дрымучы
Перадзім'е
Сучасная трагедыя
*** Рагаты лось дарогу перакрыў
Дарожная элегія
*** Ноч— налітая цемраю чаша
Апантанасць
*** Пляменнік вучыцца хадзіць
Пляменніку
Страчаны дзень
Штрыхі да памяці
Светлай памяці В. Л. Бечыка
*** Мілая Вера Сямёнаўна, дзякуй за шчодрасць сэрца!
Эпітафія сабе на ўсякі выпадак
Аптымістычная элегія
*** Па свеце гойсае бясследна брат
Грыбны жарт
*** Па калена трава
*** Дзесяткаў восем мае дзед
Смерць суседкі
Лёс паэта
Эпітафія абыякаваму
Сябру-паэту
*** Яшчэ вятры не прадзьмулі
Памяці Мікалая Рубцова
*** Майстрам быць — не шукаць палёгку
*** Якая няясная ноч!
*** Падумаць даўно ўжо, даўно мне пара
Памяці сябра В. Ціхановіча
*** Я не збярог. І ты не зберaглася
Сустрэча
Дзедаўскі перапеў
*** Забыць цябе. І я цябе забуду
*** Мне помніцца агністы лістабой
Амаль сур'ёзны верш
Метамарфозы кахання
Любові цень
Элегія
*** Схілюся над табой
*** Такі мне выпаў лёс
*** Плача жанчына перада мной
*** Усё ў жыцці так хутка

*** Незнаёмыя. Нечаканыя
Люстэркі матчыных вачэй
*** ...А мама мая маладой не была
*** ...А маці носіць боль душы маёй
*** Першая песня — маці
Верш з пастскрыптумам
Вытокі будучай паэмы
Аб вершапісанні
Паэту
Птушыны лёс
*** Вось тут — у гэтым наваколлі
Вольная ода паэзіі
Эпітафія верлібру
Мова
Вясновыя метамарфозы
Зіма Айчыны
Край
А заўтра
*** Пара пладаносу і роздуму
Ёй
Проза кругазвароту дзён
...Вера
*** Я ў горадзе — гаротны, як ізгой
Роздум ля помніка Пушкіну
*** Даўно прыцярпелася слова
Кроўнае
*** Паэзія, ці станеш ты працягам

Галубовіч Л.

Споведзь бяссоннай душы: Лір. дзённік.— Мн.: Маст, літ., 1989.— 222 с.

ISBN 5-340-00190-3.

«Споведзь бяссоннай душы» — новая кніга паэзіі Леаніда Галубовіча, чый першы зборнік стаў з'явай у беларускай паэзіі і ўмомант разышоўся. У новай кнізе Леанід Галубовіч верны сваёй асноўнай тэме — пранікненню ў людскую душу, у якой змяшчаецца ўвесь сусвет. Веданне жыцця вёскі, чалавека ў спалучэнні з высокім майстэрствам даюць добры плён. Самабытны талент Леаніда Галубовіча развіваецца, набірае сілу.